# ВЕДА VEDA

Навукова-Літаратурны месячнік

Выдаець Крывіцкае (Беларускае) Навуковае Таварыства Пранціша Скарыны



Kryvian (Whiteruthenian) Scientific and Literary Monthly
Published by Francis Skoryna Kryvian (Whiteruthenian) Society of Arts and Sciences in the U. S., Inc.

Address: 6 Vandervoort Place, Brooklyn 37, New York, U. S. A.

1952, верас.-кастр. Ц. 75 ц. № 9-10 (14-15) September-Oct. 1952


## ЭТНОҐРАФІЧНЫЯ Й ГІСТОРЫЧНЫЯ ТЭРЫТОРЫІ Й ГРАНІЦЫ БЕЛАРУСІ.

Этноґрафічныя землі народу, значыцца землі, на каторых ён жывець суцэльнай сваёй масаю, што захавала свае этноґрафічныя асаблівасьці, маюць для яго найвялікшае значаньне, бо на таковых землях ён мае прыроднае права быць самым гаспадаром, мець свае гаспадарства, нат калі ў мінуласьці ён быў безгаспадарствавым. Прыкладам такіх у мінуласьці безгаспадарствавых народаў, што просьле першае сьветнае вайны здабылі палітычную незалежнасьць, могуць быць нашыя суседзі — Лятувісы, Латышы й Эстонцы; яны, паміж дзьвюма сьветнымі войнамі, праявілі добрыя гаспадарствавыя здольнасьці ў собскіх гаспадарствах.

Калі яшчэ пра народы ў мінуласьці безгаспадарствавыя могуць узьнікаць сумлевы, ці здольныя яны да собскага гаспадарствавага быцьця, то пра народ, што маў у мінуласьці свае гаспадарства, такія сумлевы мусяць адпасьці; ён вякамі свайго мінулаґа гаспадарства давёў свае гаспадарствавыя здольнасьці. Дзеля та-

го гісторычная гаспадарствавасьць народу мае для яго другое просьле этнографічнае тэрыторыі вялізарнае значаньне. Землі, што ўходзілі калісь у склад беларускага гаспадарства, ё беларускімі гісторычнымі землямі, а граніцы гэтых земляў будуць беларускімі гісторычнымі граніцамі.

Чым народ сьпельшы культурна й палітычна, тым большую вагу ў ягоным жыцьцю і ягоных імкненьнях мае традыцыя, ягоная гісторыя, а значыцца, і ягоныя гісторычныя землі зь іхнымі граніцамі. Народы імпэрыялістычныя прэтэндуюць нат на землі іншых народаў, калі таковыя землі належылі або належаць да іхнага гаспадарства. Адылі, калі землі аднаго народу належылі да гаспадарства народу другога, то гэта найчасьцей бывала з крыўдаю народу безгаспадарстваваму. Дзеля таго „гісторычныя" прэтэнсі на чужыя землі нельга ўважаць за справядлівыя, бо з такіх прэтэнсяў вынікала-б, што адна крыўда мала-б быць подам (падставаю) крыўдзе дальшай, мала-б яе апраўдаваць, калі наадварот, усякая крыўда павінна быць папраўлена. Апрача таго, калі-б згадзіцца з гісторычнымі прэтэнсямі на этнографічна чужыя землі, то безгаспадарствавыя народы былі-б пазбаўленыя свайго прыроднага права на собскае гаспадарства.

Як народ неімпэрыялістычны й дэмократычны, Беларусы ня маюць ніякіх прэтэнсяў да тых этнографічна небеларускіх земляў, што належылі калісь да беларускага гаспадарства. Мова пра такія землі, як належачыя калісь да Беларусі, можа маць адно значаньне акадэмічнае. Галоўная наша ўвага зварочуецца на тыя гісторычныя землі беларускія, каторыя пакрываюцца землямі этнографічнымі альбо ў межах гэтых. Дзеля таго вынікае патрэба сьпярша паказаць беларускія землі этнографічныя і іхныя граніцы.

### Беларускія этнографічныя граніцы

Знаць беларускія этнографічныя прасторы ня толькі трэба, каб мець іх наўвеце пры ўзнаўленьню беларускага гаспадарства, але таксама дзеля культурнае і іншае нацыянальнае работы ды ня толькі ў Бацькаўшчыне, але й вонках, на эміграцыі. Нашае грамадзтва яшчэ да апошняга часу ня ведала, што некаторыя, ды немалыя прасторы — этнографічна беларускія. Ведама, што ад гэтага цярпела беларуская нацыянальная праца і то ў усіх яе галінах — навуковай, асьветнай а іншых.

Гэтта на месцу будзе зацеміць, што калі палітык можа быць гібкі ў сваіх тэрыторыяльных дамаганьнях, можа іх пашыраць і звужаць, залежна ад абставінаў, то этнографічныя, як і гісторычныя граніцы сусім ад нас не залежаць, яны залежаць вылучна ад цяперашніх і даўнейшых, этнографічных і гісторычных фактаў. Прыкладам, малая частка беларускае этнографічнае прасторы была па першай сьветнай вайне прылучана да Латвы, і Беларусы супроць гэтага не протэставалі, але ўсі згаджаліся што да этнографічнай беларускасьці гэтае прасторы, і была там ведзена беларуская культурная работа.

Беларуская мова і іншыя беларускія этнографічныя асаблівасьці вельмі зіндывідуалізаваныя, вельмі яны накшыя ад этнографічных рысаў суседніх народаў. Асабліва гэта трэба сказаць пра беларускую мову. На прасторах адылі, што даўгі час належылі да чужога гаспадарства, беларуская мова і іншыя беларускія этнографічныя рысы падпалі пад большы альбо меншы чужы ўплыў, і рэдчас мы мусім даводзіць, што гэткія прасторы этнографічна беларускія.

У гэтым артыкуле этнографічныя граніцы праведзеныя блізу вылучна подле мовы, як надзвычайна важнай, найгалаўнейшай рысы, што ўзьнікла, як рэзультат апрычонай псыхікі народнай.

Гэткія ё беларускія етнографічныя граніцы: Пачынаючы ля возера Пскоўскага ў бодцы, што ляжыць на поўнач ад м. Пячоры, граніца з Эстонцамі праходзе прыблізна ўздоўж гаспадарствавай граніцы з Эстоняй проста на паўдня так, што м. Пячора і м. Ізбарск застаюцца па баку беларускім; дайшоўшы гэтак да граніцы латоўскай, яна йдзець у тым-жа прасьцінку да чыгункавае станцы Корсаўка ў Люцынскім пав. Віцебскае губ., [1]) ля каторае адзначаюць суцэльную беларускую прастору. Адгэтуль граніца прастае на паўдзённы ўсход і йдзець, км. 10-5 не даходзячы Себескага пав. Дайшоўшы да р. Сінюхі, яна рэзка зварочуец-

---

[1])Пачынаючы адгэтуль, граніца з Латышамі й Лятувісамі пададзена подле Е. Карскага „Этнографическая карта белорусского племени", Петроград 1918. Ведама, што адміністрацыйны падзел Карскі падаець такі, які быў да 1918 г. Гэны падзел не адказуе, ведама, падзелу цяперашняму, але ўсё-ж такі ён памагае орыентавацца; а што да цяперашніх адміністрацыйных падзелаў, то яны так часта мяняюцца, што за імі ня ўгонешся.

ца на заход, і ад возера Чэрза — нат на паўночны заход; адлі дугою прастае траха да граніцы Рэжыцкага павету, адгэтуль ламанай лініяй яна йзноў ідзецць на паўднявы ўсход да граніцы Люцынскага пав. із Себескім а Дрысенскім. На ўсход ад Рэжыцы і да Люцына шмат беларускіх астраўкоў. Адлі граніца йдзецць на паўдзённы заход, прыблізна па лініі, дзелячай паветы Люцынскі, Рэжыцкі а Дзьвінскі ад Дрысенскага, у прасьцінку да Дзьвіны, 6½ км. на заход ад Прыдруйска. Далей па Дзьвіне беларуская граніца йдзецць спачатку на заход да Дзьвінска, адлі на паўночны заход да Ілукста. Прастора на ўсход ад Ілукста занята Беларусамі. Дагэтуль, дакладней: да мяжы Курляндзкае губ. з Ковенскай Беларусы гранічаць із Латышамі.

Ад Ілукста граніца прастае на паўдня ў **Ковенскую** губэрню захадней возера Дрысьвят, захапляючы часьць Новааляксандраўскага павету.

Ад возера Дрысьвят граніца йдзецць у паўднявым прасьцінку да **Віленскае** губэрні, да р. Дзісны. Перарэзаўшы Дзісну, яна йдзецць Сьвянцянскім паветам крыху ламанай лініяй на паўдня й заход каля лятувіскіх воласьцяў Цьверачы, Гадуцішак (на ўсход ад іх), Сьвянцян, пакідаючы на паўдня беларускія воласьці Камаі (у 1890 г. Беларусаў было 4.264, Лятувісаў — 954), Лынтупы, Камелішкі. Яшчэ паўднявей суцэльнай масаю жывуць Беларусы ў валасьцёх Страчы, Сьвіры, Шэметаве, Нестанішках, Ясеве, Занарачы, Войстаме, Дубатове, Кабыльніках, Вішневе (усі Сьвянцянскага павету). Адлі, перайшоўшы р. Жамайцянку, граніца крывой лініяй ідзецць Віленскім паветам на заход, траха да Кернава, пакідаючы на поўнач лятувіскія воласьці — Янішкі, Ґедройці, Шырвінты, Мусьнікі, а на паўдня беларускія воласьці — Няменчына, Падбярэзьзе, Майшаголу, Салечнікі (у 1890 г. Беларусаў 4.719, Лятувісаў 489), Варняны (Беларусаў 11.363, Лятувісаў — 3.480); Рэшу, Міцкуны, Кярдзееўцы, Шумск, Быстрыцу, Рукойме, Рудоміна (усі Віленскага пав.). Ля Кернава беларуская граніца пераходзе на левы бераг р. Вяльлі і йдзецць ламанай лініяй у паўднявым прасьцінку, займаючы да беларускага краю воласьці Еўе (у 1890 г. Беларусаў 4.982, Лятувісаў 1.303) і Трокі, із заходу сёлы Мустыняны (485 Беларусаў і 314 Лятувісаў), Даўгердзішкі, Багданцы (775 Беларусаў, 97 Лятувісаў), належачыя да воласьці Шумелішкі, і сяло Талькава (Ганушыскае вол.), адлі Міжырэчча (Беларусаў 7.393, Лятувісаў — 725), пакідаючы на

паўдні станцу Рудзішкі, адлі на ўсход і паўднявы ўсход, да граніцы Лідзкага пав. і нат пераходзячы яе ля Падбор'я; адгэтуль па пагранічнай ліні Лідзкага пав., пакідаючы на поўначы менаваную раней беларускую воласьць Салечнікі, адлі яна пераходзе да Ашмянскага пав., пры гэтым лятувіскі край із заходу займае воласьць Дзявенішкі (зь лятувіскімі сёламі Уткуны, Беняконы, Шадоні, Стаґляны, Давяны, Мілкуны, Ґірдзюны, Канвалішкі) і часьць беларускае воласьці Седліска, наймя сёлы Гарманішкі й Пашэле; гэткім парадкам, беларуская граніца мае тут з усходу беларускія воласьці Гроўжышкі, Гальшаны, Трабы, з паўдня Сыботнікі, Геранёны, Седліска, Палітніцу (Беларусаў 346, Лятувісаў — 325) (тры апошнія мясцовасьці Седліскае воласьці); засталыя воласьці Ашмянскага пав. — усі беларускія. Адлі граніца йдзець па паўночнай часьці Лідзкага пав.: ад Геранён на паўднявы заход, траха да станцы Бастуны Палескае чыгункі і далей да Забалацьця; адгэтуль граніца йдзець на поўнач, пакідаючы на ўсходзе сяло Пелясу і лятувіскую воласьць Радунь; да Беларусі тут адыходзіць мешаная воласьць Эйшышкі (Новы Двор — Беларусаў 853, Лятувісаў — 93, Парадунь — Беларусаў 853, Лятувісаў 161, Браталожа — Беларусаў 899, Лятувісаў 218, Гарнастале — Беларусаў 867, Лятувісаў 137, Падборы) і Нача воласьці Канявы, наагул лятувіскае. Ад Эйшышак адлі граніца йдзець на паўднявы заход, пакідаючы на ўсходзе воласьць Дубічы, да возера Дуб. Ляжачая з паўдня прастора Лідзкага павету вылучна беларуская. Да лятувіскіх воласьцяў у паўночнай часьці павету належа яшчэ Аляксандрава (сёлы Ракішкі, Горадна, Казакоўшчына, Наркушкі). Ад воз. Дуб беларуская граніца прастае да пагранічнай ліні Горадзенскае губэрні да ўтоку рэчкі Ратнічанкі ў Нёман ля Друзґенікаў.

Каля Друзґенікаў беларуская мова пераходзе да Сувальскае губэрні, займаючы паўднёва-ўсходнюю часьць Сейненскага пав. і траха ўвесь павет Аўгустоўскі.

У Сувальшчыне суседзьмі Беларусаў з паўночнага заходу а заходу ё ўжо Палякі. Па Сувальскай губ. граніца йдзець ад р. Нёмна на Копцева да Аўгустоўскага каналу, адлі па сыстэме каналу да места Аўгустова і далей па р. Неце да граніцы з Горадзенскай губ.[2]).

---

[2]) Карскі ў зацемцы на бач. 16 менаванае свае працы дадаець: „Адцем-

І ў Горадзенскай губэрні суседзьмі Беларусаў ё Палякі. Тут граніца йдзець у паўднявым прасьцінку каля Сухаволі й Карыціна на заход ад іх, на Кнышын, Харошчу (14 км. на заход ад Беластоку); потым яна йдзець на Сураж да р. Нарава, [3]) скуль да Міжырэчча Бела-Падляскага павету [4]); ад Міжырэчча граніца йдзець ужо — з украінскай этнографічнай прастораю — у прасьцінку паўдзённа-ўсходнім косай ліняй на Любяж так, што праходзе кілемэтраў 10-15 ад местаў Белая Падляская [5]) а Бе-

---

леную граніцу па Сувальскай губ., улетку 1901 г., удалося мне ўстанавіць асабіста. Да такіх-жа вывадаў прыдзем і на аснове кнігі Э. Вольтэра: „Списки населенных мест Сувалкской губ". (СПб. 1901). Уперад Беларусы жылі тут, відавочна, яшчэ паўднявей, далей на паўдзённы заход... Як паказуюць мясцовыя дзеячы, чарасло (паласа) гэта йдзець яшчэ далей на паўдня да Райгарада"; „усе гэта жыхарства... ужывае беларускую мову, каторую можна нат сустрэць яшчэ паўднявей у Ломжынскім павеце" (Риттих: Приложеніе к матеріалам для этнографіи Царства Польскаго. СПб. 1864, бач. 16). Запіс мовы з Аўгустоўскага пав. ў М. Каяловіча (Русскій Інвалид 1864 г. нр. 78), а таксама ў Рыттыха (о. с.)".

„У сьпісаньню 1897 г. адцемлена крыху Беларусаў і ў Марыампольскім пав. (Сувальшчыны), наймя 489 чал". Карскі, там-жа.

Што тая часьць Сувальшчыны, каторая занята цяпер польскай мовай, належыла ўперад да беларускае этнографічнае прасторы, сьцьвярджае таксама польскі дыялектолёг K. Nitsch у працы: „Djalekty języka polskiego (Encyklopedyja polska, t. II — dział III. (cz. II.), 1915 г., б. 253-254).

Спаленізавана таксама Тыкацінская воласьць у Высака-Мазавецкім павеце. Там „Прыданыя тыпу беларускага. Сялянскія сёлы ў Тыкацінскай вол. і ў узнараўскім чарасьле ў вясельных абрадах цягнуцца да Падляшша занараўскага Прыданыя (przenosiny), ня кажучы ўжо пра іншыя абрады, чыста пра гэта сьветчаць". St. Dworakowski: Zwyczaje rodzinne w powiecie Wysoko-Mazowieckim, Warszawa 1935, 88.

[3]) Дагэтуль граніца з Палякамі праведзеная подле вышменаванае мапы Карскага.

[4]) Беларуска-польская граніца, вызначаная ў гэтым артыкуле, блізу ані ня розьніцца ад польскае этнографічнае граніцы на ўсходзе ў зборнай граматыцы польскіх моваведаў: „Język polski i jego historja..." (Encyklopedja polska, t. II. — dział III. (cz. II), 1915 г., 253-254 i „Mapa dialektów polskich").

[5]) Мову Бела-Падляскага павету я асабіста дасьледаваў у 1941 г. Як коль-

расьце; ад Любяжа граніца йдзець да Дубравіцы, скуль да бодкі, што шаснанцаць км. на поўнач ад Алеўска; адгэтуль граніца йдзець у тым-жа паўднёва-ўсходнім прасьцінку да Патапавічаў Аўруцкага павету, скуль да ўтоку Цецерава ў Дняпро. На беларускім баку тут застаюцца Чарнабыль, Кагановічы, Аўруч, Славечна, Хабное, а на ўкраінскім Карасьцень, Алеўск, Сарны.

Этнографічную беларускасьць тэрыторыі, ляжачай на поўнач ад праведзенай граніцы, паказаў я ў вартыкуле „Дрыгвічы" („Веда", 1952 г., б. 162-165, пра мову кажацца на бач. 164, і ў варт. „Дзярвяне" (там-жа, бач. 165-176, асабліва на бач. 171-176).

Е. Карскі, на каторага з такой радасьцяй паклікаецца І. Сідарук у сваёй брашуры „Проблема українсько-білоруської мовної межі" (Авгсбург 1948), нарабіў шмат абмылаў пры разгранічэньню беларускае мовы з мовамі расійскай а ўкраінскай. Абмылы гэныя выніклі з прычыны абмыльных прынцыпаў моўнага разгранічэньня, каторымі Карскі карыстаўся. Гэтак, ён уважаў дыфтонгі за асаблівасьць украінскае мовы, тымчасам-жа гэта рыса беларуская, на пэўнай украінскай моўнай прасторы яе нямашака. Карскі не даволі браў пад увагу зацьвярдзелае **р**, сусім ня браў пад увагу зацьвярдзелага **ц** і шмат якіх іншых беларускіх рысаў. Апрача таго, Карскі, каторага Сідарук завець найлепшым ведамцам беларускае мовы і сумленным яе дасьледавальнікам, ня ёсьць ані такім добрым, ані нат сумленным, ды як „истинно-русскій", дарма што беларускага паходжаньня, ён шмат дзе скарачаў тэрыторыю беларускае мовы, залічаючы да Беларусі адно тыя прасторы, дзе беларуская мова недазнала чужога ўплыву. Да праведзеных Карскім граніцаў беларускае мовы на ўсходзе Беларусі расійскія дасьледавальнікі зрабілі вялікія паправы на карысьць Беларусаў. Пара, каб падобныя паправы зрабілі на паўдні Беларусі ўкраінскія моваведы, з каторых адылі дагэтуль бальшыня, як Зілінскі, Ганцоў і апошні Сідарук, сьпяшаліся згадзіцца з „граніцамі Карскага". Невялічкую папраўку да беларуска-ўкраінскае граніцы Карскага на заходнім Палесьсю зрабіў Л. Асоўскі (Осовскі) ў працы „Zagadnienie językowe Polesia", Варшава 1936, залічаючы да беларускае моўнае тэрыторыі Лунінец, Давідгарадок а Столін. Да беларуска-ўкраінскае граніцы Карскага на ўсходнім Палесьсю (ад палітычнае граніцы з Польшчаю да 1939 г. да р. Дняпра) вялікую папраўку зрабіў украінскі мовавед П. Бузук у працы „Спро-

---

касьцяй сваіх рысаў, так і важнасьцяй іх яна беларуская; адно пачынаючы км. 10-15 на паўдня ад Белае Падляскае ўкраінскія рысы ў мове пераважаюць, але й тут ё ў мове ладне беларускіх асаблівасьцяў.

бы лінґвістычнае ґеоґрафіі Беларусі", праводзячы граніцу ўздоўж палітычнае граніцы Беларускае Савецкае Рэспублікі з Украінскай Савецкай Рэспублікай. З папраўкаю Бузуковай згадзіўся Л. Асоўскі. Бузук, як ведама, дасьледаваў толькі мову тэрыторыі Беларускае Сав. Рэспублікі. Калі-б ён дасьледаваў і мову паўночнае прасторы Украінскае Сав. Рэспублікі, дык можна спадзявацца, што беларуска-ўкраінскую моўную граніцу правёўбы ён шмат ніжэй.

Узноў такі Маскоўская Дыялектолеґічная Коміся (фактычна ейны сябра Н. Дурново) у сваім „Очерку русской діалектологіи" шмат беларускіх моўных рысаў, што заразом ё ў т зв. паўночна-украінскім нарэччу, каторае ґенэтычна ё беларускім, залічыла да рысаў украінскіх і за ўкраінскія ўважае іх на тэрыторыі беларускага паўдзённага нарэчча. Дык няма дзіва, што гэткім парадкам адразаецца да Украіны вялізарная этноґрафічная тэрыторыя беларуская.

І. Сідарук у вышменаванай брашуры за Карскім абмыльна ўважае дыфтонґі за асаблівасьць украінскую. Сідарук, паклікаючыся на „Нарис української діялектології Яр. Рудніцкага, піша, што зацьвярдзелае **р** ё таксама ў часьці заходне-ўкраінскага нарэчча. Тымчасам Рудніцкі констатуе толькі цяперашні стан спачатнага мяккога **р** у заходне-ўкраінскім нарэччу, прыводзячы на б. 7 прыклад **рйабий** (побач із „рабий"), каторы дыкжэ сьвеiча пра спачатнае мяккое **р** і ў гэтым нарэччу ўкраінскім; гэтае мяккое **р** адно пасьлей тут зацьвярдзела, выдзяляючы із сябе **й**, тымчасам як у мове беларускай, разам із моваю разгляданых Сідаруком мясцовасьцяў, маем спачатную зацьвярдзеласьць **р**. Можна яшчэ тут зацеміць, што Рудніцкі на бач. 19 свае менаванае працы прыводзе прыклад **дывирь** (дзевер) — зь мяккім **р** з тае-ж Узднястраншчыны, дзе, подле яго й Сідарука, мае быць зацьвярдзелае **р**. Гэты прыклад сьветча, што яшчэ й цяпер, прынамся часткава, вымаўляецца там мяккое **р**. Сідарук ня ўзяў на ўвагу зацьвярдзелага **ц** і шмат якіх іншых рысаў беларускіх як такіх, што заразом ведамыя ў ґенэтычна беларускіх, але зукраінізаваных паўдзённа-палескіх гаворках (зь іх колькі прыведзена ў „Ведзе" 1952 г. б. 166-167), так і такіх, што ё толькі ў чыста беларускай мове. З гэтых другіх Сідарук ня ўзяў яшчэ пад увагу хормаў на-ом, -ох у прызначальным і мясцовым склонах мн. л. спакменьнікаў мужчынскіх а ніякіх (братом, братох, у сілох), зьмякчэньня **н** у вабстрактных спакменьніках на — іня (шырыня, чысьціня), зьяўленьне новага **н** у лічніках 11-19 (двананцаць), займёнаў **гэты, гэны,** такіх новых дыялектычных зьяваў беларускіх, як пераход Ы па вусьняных сугуках у У **(бук, му заміж бык, мы),** зацьвярдзеньня **с** у зваротных дзеясловах (мыюса) і іншых. Пры ўсім гэтым нельга ня прызнаць, што ў Кобрынскім пав., асабліва ў некаторых ягоных астраўкох, ё вялікі ўплыў

украінскае мовы. У меншай меры гэта датыкаецца паветаў Берасьцейскага а Пінскага. Але ад гэтага ўплыву мова гэных мясцовасьцяў не перастала быць беларускай.

Ад утоку Цецерава ў Дняпро граніца йдзець да м. Осьцер ля р. Дзясны, адлі Дзясною да ўтоку ў яе Сейма, адгэтуль проста на ўсход да бодкі, што крыху на паўдня ад м. Глухава; [6]) адгэтуль граніца йдзець проста на паўдня і займае да этноґрафічнае Беларусі паўночна-ўсходнюю часьць Пуцівельскага пав. б. Курскае губэрні разам із м. Пуцівлям, тут на заходзе граніца беларуска-ўкраінская праходзе па граніцы б. Глухаўскага пав. з б. Пуцівельскім, на паўдні граніцаю з украінскай моваю ё р. Сейм, а на ўсходзе граніцаю з расійскай моваю ё ўсходняя мяжа Пуцівельскага павету. [7]) Адгэтуль граніца з расійскай моваю йдзець на поўнач, праходзе 25 км. на ўсход ад м. Дзьмітраўска б. Курскае губ. і крыху на ўсход ад местаў Дзьмітраўска й Карачэва б. Арлоўскае губ., адлі, памалу сьхінаючыся на ўсход, ідзець да м. Болхава, скуль да м. Белеў, тады Акою да ўтоку Вугры ў яе, адлі на м. Медынь, скуль да сяла Матаева, што крыху на ўсход ад м. Гжацка, адгэтуль усходнім берагам р. Гжа-

[6]) Пра гэтую граніцу я прывёў даводы ў сваім артыкуле пра Севяран у „Ведзе" 1952 г., б. 238-241.

[7]) Беларускасьць менаванае часьці Пуцівельскага павету я паказаў у вартыкуле „Беларусы Пуцівельскага пав. б. Курскае губэрні" („Веда" 1952 г., б. 241-250). Да таго, што там сказана, дадам гэтта, што знаходзім у Карскага. Ён кажа: „у іх (Беларусаў Пуцівельскага павету) няма дзеканьня, але надта мяккая вымова Д й Т; ё У і іншыя беларускія асаблівасьці, пераважна ў слоўніку; бытавыя рысы чыста беларускія". (Этногр. карта блр. племени, Петроград 1918, б. 25). Там-жа на б. 26 Карскі зазначае, што ў Пуцівельскім пав. беларускімі ё сёлы Бяруха, Новая Слабада, Лінова, Калішчы, Буваліна, Старыя й Новыя Віры. Як паведамляе М. Халанскі (гл. менаваны мой артыкул у „Ведзе"), беларускімі ё таксама некаторыя сёлы, сумежныя з Глінскай пустынёй, прыкл. царкоўнае сяло Козіна, і м. Пуцівель. Нельга згадзіцца з Карскім, каторы думае, не падаючы ніякіх даводаў, што пуцівельскія Беларусы — перасяленцы. Пра перасяленьне нічагусенькі ня ведама, а тымчасам сёлы пуцівельскіх Беларусаў мянуюць ужо на пачатку XV стг. (гл. „Веда", б. 241), а м. Пуцівель ведамнае ад XI стг.

ці, км. 10-14 ад яе, да мяжы б. Цьверскае губ. з б. губ. Смаленскаю.

Праведзеная ўсходняя граніца адцінае да беларускае этнографічнае тэрыторыі блізу ўсю б. Смаленскую губэрню, з выняткам усходняй часьці Гжацкага пав., большую часьць б. Калускае губэрні і ладныя часьці б. б. Арлоўскае й Курскае губэрняў. Граніца гэтая вызначаная Маскоўскай Дыялектолегічнай Комісяй, [8]) да каторай пасьлей дадаў свае дасьледаваньні выдатны сябра гэтае Комісі, І. Галанаў.[9]).

Прыблізна на ўсход ад м. Вязьмы ў Смаленшчыне, а таксама ў Калужчыне й Арлоўшчыне, з выняткам Трубчэўскага пав., ды ў Куршчыне, з выняткам Пуцівельскага пав., беларуская мова вельмі абрусела, але ўсё-ж ткі яна ў васнове засталася беларускай. Жыхары гэтых прастораў звычайна ўсьведамляюць сваю апрычонасьць ад Расійцаў. Між іншага, Е. Буддэ ў сваіх дыялектолегічных запісах з Арлоўшчыны падаець гаворку аднае жанчыны, каторая кажа, што ў іх звычаі й гаворка накшая, ня руская, а вось там далей на ўсход гаворацъ ларуску. У дваццатых гадох, калі ў СССР была некаторая свабода нацыянальнае працы, была нат арганізацыя беларускіх студэнтаў, паходзячых із Гжацкага пав.

Прывяду некаторыя факты й сьветчаньні пра мову ўсходніх земляў беларускіх, каторай граніца з моваю расійскай гэтта праведзена.

**Смаленшчына.** Мову Смаленшчыны я падаў, подле Даля, у „Везде" 1951 г., б. 5-7. Між іншага, Даль кажа: „Дзеканьне" й „цеканьне" агульнае ўсёй Беларусі зь вельмі малымі выняткамі: заміж Д, Т чуецца ДЗ, Ц. У Смаленскай губ. **часткава** ня дзекаюць адно ў **Вяземскім** а **Гжацкім** паветах; а пра іншыя можна сказаць із Украінцамі: Хиба **лихо** озме **Литвина, шоб він не** дзекнув! У **Дарагабужу** чуем ужо: слухай, хадзі, ашукайся; у Сычаўцы хто дзекае, а хто не". (Даль у варт. „Смоленское наречіе", зьмешчаным у ягоным слоўніку).

---

[8]) Н. Н. Дурново, Н. Н. Соколов, Д. Н. Ушаков: Опыт діалектологической карты русского языка в Европе, Труды Московской Діалектологической Комиссіи, V, Масква 1915.

[9]) И. Голанов: Несколько новых данных к вопросу о географическом распространении диссимилятивного акания (Сборник статей в честь акад. А. И. Соболевского, АНС. Ленинград 1928, б. 479-483).

„Гранічную лінію (паміж беларускай і расійскай мовамі) трэба шукаць заходней, відавочна, па сярэдзіне Гжацкага пав. Адно гаворка сяла Матаева, а за ім усіх заходніх воласьцяў павету рэзка супроцьстаіць гаворцы ўсходнейшых дасьледаваных бодкаў. Вылучаючае яе дысыміляцыйнае аканьне ставіць пытаньне пра яго беларускую, але не паўднёва-вялікарускую аснову. У гэтым дачыненьню даныя выбегу йзноў пярэчаць Дыялектолегічнай мапе (Маскоўскае Дыялектолегічнае Комісі). Гэткім парадкам, гаворка (заходняе палавіны Гжацкага пав.) ё нам аднэй із пераходных на беларускай аснове (зн. ё вельмі абруселай беларускай моваю — Я. С.). Граніца падобных гаворак праходзе, відавочна, крыху ўсходней р. Гжаці. Цяжшым ё вызначаньне асновы гаворкі на ўсход ад Матаева. Тут ё даныя і за паўночна-вялікарускі, і за паўднёва-вялікарускі і за беларускі ўплыў". М. Ушаков: Заметка о говорах Гжатского і Можайского уу. (Зданьне лічбы з выбегу Маск. Дыялект. Комісі 1925 г. у складзе Галанава, Дзяржавіна, Сідарава й Ушакова, надрукаванае ў „Трудох" Комісі нр. 9, бач. 143).

У 1860 г. Беларусаў у Смаленскай губ. запісана 1 мілён 122 тысячы чал. („Живописная Россія", III, б. 442, арт. Максімава). Калі зьвернем увагу, што сьпісаньне 1897 г. падаець усяго жыхарства Смаленскае губ. 1.525.279. ч., дык у 1860 г. усі альбо блізу ўсі жыхыры Смаленшчыны запісаны былі Беларусамі. Але ў 1863 г. было паўстаньне ў Беларусі на чале з К. Каліноўскім, просьле каторага Расійцы ўсімі спосабамі імкнуцца зацерці Беларусаў, асабліва на ўсходзе — у Смаленшчыне, Севершчыне й інш. Дзеля таго ў сьпісаньню 1897 г. падана Беларусаў у Смаленскай губ. толькі 100.757 чал. Нат Карскі дзівіцца:

„Статыстычныя даныя пра Смаленскую губ. надта супярэчныя — кажа ён — У тых мясцох, дзе ў 1866 г. былі дзесяткі тысячаў чыстых Беларусаў... у 1897 г. за 30 год часта паказана колькі дзесяткоў Беларусаў: або яны чыста зрусыфікаваныя, або проста запісаныя „русскими" і дзеля таго лучылі ў лік Вялікарусаў" (цыт. пр., б. 20-21). Знаючы Смаленшчыну, нельга сумлявацца, што там блізу ўсё жыхарства было й ё беларускае. Такую, як у Смаленшчыне, хвальшывую статыстыку Беларусаў падаець расійскае сьпісаньне 1897 г. у Севершчыне ды ў Калужчыне, Арлоўшчыне і іншых беларускіх землях на ўсходзе а поўначы.

**Калужчына, Арлоўшчына, Куршчына.** Карскі кажа: „Подам да вызначаньня граніцаў беларускага краю служа ў нас вылучна мова; дзеля таго... тыя жыхары Арлоўскага й Калускага Палесься, што гукаюць па паўдзённа-вялікарускy, залічаныя да Паўдзённа-вялікарусаў, хоць прашчуры іхныя бяссумлеву былі Беларусамі. Гэткім парадкам, край, каторага граніцы вызначаныя, барджэй належа да беларускага нарэчча, чымся плямені". (Беларусы, 1, 4). Але Карскі

да тэрыторыі беларускае мовы залічаў адно тыя прасторы, каторых беларуская мова не дазнала большага чужога ўплыву. Дзеля таго вялікія беларускія прасторы на ўсходзе, залічаныя Карскім да расійскай этнографічнай тэрыторыі, Расійцы прызнаюць беларускімі. Ведама таксама, калі якая група людзёў забудзецца сваю родную мову, дык ад гэтага яна не перастане належыць да свайго народу; зыркім прыкладам могуць быць Жыды. Праўда, тут Карскі назоў „Паўдзённа-вялікарусы" ужывае ўмоўна, заміж „гукаючыя папаўдзённа-вялікаруску".

У „Трудах Общества Любителей Россійской Словесности", 1820, нр. 20, б. 227-229, прыведзены невялічкі лік „словаў, ужываных жыхарамі места Жыздры"; бальшыня зь іх беларускія". Карскій, Белор. 1, 206.

Аднэй із асаблівасьцяў мовы места Карачэва Арлоўскае губ. ё дысыміляцыйнае аканьне (вымова: выда, трыва) — рыса ведамая толькі на беларускай этногр. тэрыторыі. Гл. адказ із Карачэва на моўную „праграму" надрукаваны ў 10 томе б. 3 „Трудов Постоянной Комиссии по диал. рус. яз".

„У Калускай губэрні яшчэ цямчэйшае вялікарускае захварбаваньне, хоць беларускае паходжаньне гэтых гаворак відаць із такіх фактаў, як: стаття, свіння, пакрый, памыйся — у Масальскім а Жыздрынскім паветах. Таксама беларускія рысы відаць у захаваньню хормаў мясцовага склону адзін. ліку на — у: ў **сараю, на бальшаку і інш.,** у канчатках наз. склону мн. л.: рукавы, лугі, павады і пад." Будде: Лекціи по исторіи рус. яз. (Ученыя Записки Казанскаго у — та, 1907, чырвень - ліпень, 238).

Карачэўскі, Бранскі а Трубчэўскі паветы Арлоўскае губ. а Сеўскі павет Курскае губ. прызнаець беларускімі дэ — Ліўрон (Живописная Россія, III, 250).

С. Максімаў адзначае дзеканьне ў мове Калуска-Арлоўскага Палесься (Древняя и Новая Россія, 1876 г., нр. 8, 299-300, 306).

Даль у сваім слоўніку адзначае, што Медынь носіць на сабе болей або меней пазнак беларускае мовы. Даль таксама кажа, што „ў Калугу прынесена нямала зь Беларусі" (Слоўнік Даляў, XXVIII).

Беларуская Калужчына й Арлоўшчына ведамая пад назовам „Палесься". Як ведама, у шыршым значаньню ўсю Беларусь завуць Палесьсям. Беларусы Калуска - Арлоўскага Палесься завуцца Палехамі — любасная хорма ад „Палешанін", ад каторага йзноў здрабнелай хормаю ё назоў „Паляшук". Назоў "Палешанін" паўстаў ад назову краю "Палесьсе", як ад „места„ маем "мешчанін". Апрача таго, ужываецца тут яшчэ назоў "Літва", „Ліцьвін. Абодва назовы — агульна беларускія: „Літва" паходжаньня гісторычнага й гаспадарстваваrа, а "Палесьсе", "Палехі" паходжаньня топографічнага. Гэтымі абодвымі назовамі завуць калуска - арлоўскіх Беларусаў таксама іхныя ўсходнія суседзі.

Уперад беларуская мова была пашыраная і на ўсходзе ад праведзенай вышэй моўнай граніцы беларуска-расійскай, але пасьлей яе там зрусыфікавалі. Гэтак, пабеларуску гаманілі каля р. Упы, правае прытокі Акі, на паўдня ад м. Калугі (Карскій, Беларусы, I, 60). М. Коласаў адзначае Беларусаў у паветах Мажайскім, Рускім (пав. места Руза) і Валакаламскім Маскоўскае губ. (Обзор звуковых и формальных особенностей народнаго рус. яз., Варшава 1878, б. 147, зацемка 2). Даль кажа, што ў менаваных мясцовасьцях Маскоўскае губ. адчуваецца беларуская мова.

Ад вышменаванага месца на мяжы Смаленскае губ. зь Цьверскаю беларуска-расійская граніца пераходзе ў Цьвершчыну і праходзе левым берагам Волгі, км. 40 ад яе; дайшоўшы да бодкі супроць утоку ў Волгу Маладога Туда, ідзець ад Волгі на воддалі км. 30 і гэтак далей у тым-жа паўночна-заходнім прасьцінку аж да бокі, што супроць м. Дзямянска, км. 30 на ўсход ад яго; адгэтуль прастае проста на заход да м. Дзямянска; гэтак граніца тут перацінае Цьвершчыну, пакідаючы на баку беларускім групу азёраў із воз. Селігер і месты Асташкава, Селіжарава, Ржэву й Зубцова. Зацемлю, што Беларусы ля Маладога Туда ведамныя пад назовам Тудаўлян.

**Колькі зацемкаў да беларускае мовы Цьвершчыны.** Мову Тудаўлян дасьледаваў, між іншага, В. Папоў. Ён адзначыў пераходы Л у У (даў, доўга), фрыкатыўнае заднепаднябеннае Г і іншыя беларускія рысы. (ИОРЯС, 1913, кн. 3, б. 251). И. Галанаў дасьледаваў беларускую мову Ржэўскага пав., адзначаючы тут дысыміляцыйнае аканьне, У з В і Л, фрыкатыўнае заднепаднябеннае і нат грытаннае Г, шапятлявую вымову З, С, пытальную частку ЦІ і іншыя беларускія асаблівасьці (Труды Постоян. Комиссии по диалект. рус. яз., нр. 9, бач. 9). Беларускае дзеканьне, подле Даля, чуецца ў Таржку.

З ранейшых аўтараў пра Беларусаў Цьвершчыны трэба адцеміць Праабражэнскага (Преображенскій). У ягонай працы „Описаніе Тверской губ. в сельскохозяйственном отношеніи", Пецярбург 1854 г., бач. 78, паказаныя Беларусы яшчэ ў Старыцкім павеце. Праабражэнскі падаець лік Беларусаў у Цьвершчыне на 125.000. Калі ўзяць пад увагу паднявольнае палажэньне Беларусаў, дык бяссумлеву ня ўсі Беларусы Цьвершчыны ўвыйшлі ў гэты лік, але ня мала іх залічана да Расійцаў.

Пра Асташкаўскі павет маем цікавую зацемку С. Максімава ў варт. „Белорусская Смоленщина" (Живописная Россія, III, б. 446). Ён піша: „Асташкаўская мясцовасьць, гэтулькі падобная зямлёю, гэтулькі свая звычаямі, у гэныя часы руху беларускага плямені з паўдня на поўнач не магла быць абмінена пры па-

лёгкавых дарогах і не магла застацца без беларускага ўплыву. Ён чуецца ў гаворцы селавых жыхараў, у аднолькавасьці некаторых звычаёў і ў самым месьце Асташкаве (старавечным Клічаве, каторага назоў зьмяніў Зьмітра Донскі на Асташкаў) заховуе сьляды ўзаемнай сувязі і даўнейшага цягненьня. На гэты раз даводы свайні і сваіх сувязяў выказаліся ў найбяссупярачнейшым і жывым народным подзе-аснове — рэлігійнасьці, што выказуецца прывязьлівасьцю да роднае патрональнае сьвятыні. На тым канцу места, дзе пачынаецца дарога да Ноўгараду, даўно пастаўлены манастыр (жаноцкі) Знаменскі. На тым-жа месцу, у бок Смаленску, дзе спрадвеку было „царковішча" (астачы царквы на Жытнім абтоку), пастаўлены мужчынскі манастыр у чэсьць абраза Смаленскае Божае Маці".

Ад вышменаванага места Дзямянскага граніца йдзець проста на заход да бодкі, што крыху ніжэй за м. Порхава, скуль даволі крута паварачае на паўночны заход, прастаючы да бодкі, што супроць утоку р. Чорнай у Пскоўскае возера, у воддалі каля 60 км. ад возера, адгэтуль ідзець проста да Пскоўскага возера, ля ўтоку ў яго р. Чорнай.

Прастора, агранічаная з поўначы а ўсходу праведзенай кадзе граніцаю, із заходу граніцаю з Эстоняй а Латвой і з паўдня беларускай Полаччынаю зь Віцебшчынаю, складаецца з Пскоўшчыны й часьці Цьвершчыны. З гледзішча нядаўнага, да рэволюцыі, адміністрацыйнага падзелу ў яе ўходзяць: высуненыя найдалей на паўдня часьці былых паветаў Гдоўскага а Лускага (Луга) б. Пецярбурскай губ., блізу ўся Пскоўская губ., з выняткам паўночнае часьці Порхаўскага пав. і ладная часьць б. Цьверскае губ. Да нядаўна толькі паўднявую ладную часьць былое Пскоўскае губэрні — часьці Апочацкага, Вялікалуцкага й Тарапецкага паветаў і заходнюю ладную часьць Цьверскае губ. уважалі за беларускую прастору, а бальшыню залічалі да расійскае этнографічнае прасторы.

Зацемлю крыху праз мову ўсяе гэтае прасторы, зн. Пскоўшчыны й заходняе Цьвершчыны разам, бо мова іх аднолькавая. Мова пскоўскіх памяткаў, пачынаючы ад найстаршых часоў розьніцца ад мовы памяткаў ноўгарадзкіх, зн. і ад мовы расійскай, бо гэтая ёсьць моваю Вялікага Ноўгараду. Старую мову Пскоўшчыны дасьледавалі галоўна Н. Карынскі й А. Шахматаў. Карынскі выявіў ладную розьніцу паміж моваю пскоўскіх памятак XV стг. і моваю пскоўскіх-жа памяткаў XIV стг. Гэтую розьніцу ён выясьняў уплывам мовы беларускае на мову Пскова, а гэта прывяло яго да гіпотэзы пра коленізацыю Беларусаў у Пскоўшчыне ў XIII або на па-

чатку XIV стг. Подле Карынскага памеры гэтае коленізацы был вялікія, бо пскоўская мова XV стг. мала „усі важнейшыя фонэтычныя, а часткава й морфолеґічныя асаблівасьці беларускія" ды „беларускі ўплыў абняў усю Пскоўскую краіну". Гэткі позьні прыход Беларусаў да зямлі быццам іншага славянскага жыхарства дапусьціў Карынскі адно на аснове некаторых моўных рысаў, адбітых у памятках, ня маючы на гэта ніякіх даных гісторычных а іншых. Але ягоная моўная падстава аказалася ілюзорнаю. Шахматаў, разгледзіўшы ўсі факты, сьцьвердзіў, што „праўда, у памятках XIV стг. меней беларускіх рысаў, чымся ў XV стг., але гэта магло стаяць у сувязі з тым, што ў XIV стг. альбо ў першай палавіцы гэтага стагодзьзя пскоўская пісьменнасьць была пад беспасярэднім уплывам ноўгарадзкае" і што нямашака даных выясьняць блізіню пскоўскага нарэчча да беларускага рухам Беларусаў да Пскоўскае зямлі. Шахматаў „сьхінаецца да пагляду, што моўная сувязь пскоўска-беларуская спрадвечная, створаная спрадвечным суседзтвам Псковічаў а Беларусаў".

Шахматаў сьцьвердзіў таксама, што тыя рысы пскоўскіх памяткаў, каторых няма ў цяперашняй мове беларускай, былі ў тагачасных беларускіх памятках, але, як і ў пскоўскіх, яны былі рысамі правапіснымі, занесенымі із заходняе Баўгарыі й Сэрбіі. Апрача таго, выявілася, што такая розьніца, як у мове пскоўскіх памяткаў XIV стг. і пасьлейшых, ё таксама ў мове беларускіх тых самых часоў.

Але дарма! Маскоўская Дыялектолеґічная Коміся ў сваім „Очерку русской діалектологии" 1915., паклікаючыся адно на Карынскага, кажа, што Беларусы прышлі да Пскоўшчыны пазьней за „паўночнарусаў" ды што пскоўская гаворка ў сваёй аснове „паўночна-руская" зь беларускім, не пазьнейшым XIV стг. насляеньням.

450 год Пскоўшчына была пад асыміляцыйным уплывам цэнтралістычнае Масквы. Гэта вельмі зрусыфікавала ейную мову. Але дарма, дасьледаваньнік гэтае мовы 1930 г. гэтак пра яе кажа: „Усё гэта не даець нам права аднесьці дасьледаваную намі (пскоўскую) гаворку да паўночна-рускіх. Нашая гаворка бліжэй стаіць, здаецца нам, да гаворак беларускіх, што не разьмінаецца з назіраньнямі проф. Бузука, выкладзенымі ў ягонай працы „Да характарыстыкі паўночна-беларускіх дыялектаў. — Гутаркі Невельскага й Вяліскага паветаў" (К. А. Иеропольский: Говор

дер. Савкино Пушкинского району Псковского округа, ИРЯС, III-2, 1930, бач. 597).

Аўтар гэтых радкоў дасьледаваў старую й сучасную мову Пскоўшчыны, што мае быць асобна надрукавана, як праца моваведная. Гэтта адно падзялюся з вывадамі гэнае працы. З выняткам групаў **гл, кл** (мыгла, памякло) заміж агульна беларускага Л (мыла, памяло), усі асаблівасьці пскоўскае гаворкі супольныя ў яе альбо з усёю моваю беларускай, або із шмат якімі ейнымі гаворкамі. Блізу ўсі гэтыя асаблівасьці чужыя мове расійскай. Разгледзіўшы рысы пскоўскае гаворкі, нельга сумлявацца, што з гісторычнага гледзішча яна — чыста беларуская. У сучасным сваім стане яна — таксама беларуская, але вельмі абруселая. Зьліцьцё Ч і Ц (цалавек, чарква), СЬ а Ш (**шядні** замест **сядні**) ЗЬ а Ж (**жімля** заміж **зямля, парозны** зам. **парожны**), дысыміляцыйнае аканьне (**ныга, гыра,** але **нагі, гары**), зьліцьцё **ѣ** а **Е,** былая хорма **есме** ў 1 ас. множнага ліку паказуюць, што пскоўская гаворка належа да паўночнае групы беларускіх гаворак. Групамі ГЛ, КЛ заміж агульна беларускага Л з праславянскіх ДЛ, ТЛ пскоўская гаворка займае да некаторае меры апрычонае месца ў паўночна-дыялектычнай групе беларускае мовы, але ад іншых гаворак гэтае групы яна шмат меней розьніцца, чымся ўся гэтая група ад паўднявое дыялектычнае групы беларускае мовы.

## ГРАНІЦЫ ГІСТОРЫЧНЫЯ

Даўнейшыя гаспадарствавыя землі Беларусі ня ўвесь час былі тыя самыя. Дзеля таго гісторычныя землі беларускія і іхныя граніцы мусяць быць разгляданы подле пэрыядаў. Маем два галоўныя пэрыяды гаспадарствавай Беларусі: а) пэрыяд асобных гаспадарстваў беларускіх і б) пэрыяд задзіночанага гаспадарства беларускага, званага Вялікім Княствам Літоўскім або Літвою.

### Асобныя гаспадарствы беларускія.

Балей-меней сыстэматычна докумэнтаваная гісторыя Беларусі пачынаецца ў палавіцы IX стг. Яна засьпяець беларускія плямёны арганізаваныя ў свае гаспадарствы. У гэтым часе зьяўляюцца Норманы (Швэды, Норвэгі) на ўсходзе Эўропы. Неўзабаве іхным галоўным асяродкам стаў украінскі Кіеў. Норманы робяць напады на беларускія княствы з мэтаю грабяжу, у рад-

кім лепшым прыпадку дзеля ўстанаўленьня дані. У гэтым часе беларускія княствы прадаўжаюць існаваць пастарому. Зьмена настаець за Валадзімера Кіеўскага ад 980 г., каторы зрабіў спробу заваяваць беларускія гаспадарствы. Ягоную спробу прадаўжаюць ягоныя наступнікі. Войны адбываюцца паміж беларускімі княствамі, з аднаго боку, і ўкраінскімі, на чале якіх было Вялікае Княства Кіеўскае, з другога; ходаньне было ізь зьменным шчасьцям, розным у васобных княствах. Скончылася яно перамогаю Беларусаў у тым сэнсе, што беларускія гаспадарствы захавалі сваю самастойнасьць. Гэта было хармальна-праўна замацавана на зьезьдзе ў северскім месьце Любечу 1097 г. Апрача Вялікага Княства Полацкага, каторае й датэнуль было незалежным, іншыя беларускія княствы абавязаныя былі толькі памагаць Украіне ў яе войнах із турка-татарскімі качавымі народамі. Але Беларусы гэты абавязак спаўнялі вельмі рэдка і адно тады, калі да гэтага былі змушаныя абставінамі. Наадварот, звычайнымі хаўрусьнікамі Беларусаў супроць Украінцаў былі турка-татарскія народы — Хазары, Печанегі і асабліва Полаўцы.

Пералічым асобныя беларускія гаспадарствы гэтага пэрыяду.

**Вялікае Княства Полацкае** мала тры важныя цэнтры — Полацак, Віцебск а Менск, зь іх найважнейшы быў Полацак. Гэтае княства заўсёды абымала прастору пасьлейшых, за расійскага часу, губэрняў — усяе Віцебскае, вялікае часьці Магілеўскае, з выняткам Імсьціслаўшчыны, і ладную часьць Меншчыны. Нядаўныя паветы Дзісенскі з Браслаўскім належылі да асноўнага ядра Полаччыны, а Вялейскі павет таксама належыў да таго-ж асноўнага полацкага ядра, але яго менскае часьці. У часе свайго найбольшага развою Полаччына абымала на заходзе ўсі заходне-беларускія землі зь Вільняю, Ноўгарадкам, Слонімам, Ваўкавыскам, Гораднам ажно да граніцы з Мазоўшам. На паўдні прастора полацкага гаспадарства абымала часьць Палесься із Слуцкам, Клецкам а іншымі. Да Полацку належыла таксама ладная часьць цяперашняе Латвы з княствамі Герцыке а Кукейнос ля Дзьвіны. З выняткам колькіх кароткіх перарываў, з каторых толькі адзін у X стг. трываў пара дзесяткоў год, а іншыя адно па колькі год, Полаччына ўвесь час заставалася незалежным беларускім гаспадарствам.

**Вялікае Княства Смаленскае** абымала ўсю Смаленшчыну ўлучна з **Мажайскам а Ржэваю,** каторая за расійскіх часоў належы-

ла да Цьверскае губ. Апрача таго, да Смаленскага княства належыла Імсьціслаўшчына і Тарапец у Пскоўшчыне. Да Смаленску цягнула і беларуская часьць Цьвершчыны, як Клічаў (Асташкава) а інш.

**Вялікае Княства Северскае** абымала Севершчыну, зн. пасьлейшую Чарнігаўскую губэрню, Курскую й часьць Арлоўскае. Апрача таго, да яго належыла паўднявая часьць Магілеўшчыны.

Пад канец XII стг. Смаленскае й Северскае княствы завалодуюць Кіевам і дзержаць яго да татарскага находу.

**Княства Турава-Пінскае.** Цяжкая была ягоная доля. Спачатку беларускае плямя Дзярвян, што сягала на паўдні да ракі Ірпень, правае прытокі Дняпра, тварыла свае пляменнае гаспадарства, зв. Дзервы з разьвітым палітычным ладам. Цэнтрамі Дзерваў былі месты Вьручы (цяпер Аўруч), Іскарасьцень (цяпер Карасьцень) і Малін. Дзярвяне вялі спрадвечныя бязупынныя войны з украінскімі Паляпмі. Калі Украінцы іх перамаглі ў X стг., то не дапусьцілі да ўзнаўленьня дзярвянскага гаспадарства. Дзеля таго крыху пасьлей паўстала княства дзярвянска-дрыгвіцкае з цэнтрам у Тураве ля Прыпяці. Тураўскае Княства было зьліквідавана перамогаю Яраслава Валадзімеравіча над Тураўскім князям Сьвятаполкам у 1017 г. Просьле гэтага Кіеў узноў не дапусьціў да ўзнаўленьня самастойнасьці Тураўскага Княства, Тураў стаў удзелам Кіева. І толькі ў палавіцы XII стг. з аслабленьням Кіева і ўтратаю ім ранейшай ролі, узноўлена была незалежнасьць гэтага дзярвянска-дрыгвіцкага гаспадарства з галоўным цэнтрам у тым-жа Тураве і меншым у Пінску. Прастораю Турава-Пінскага Княства было Палесьсе.

**Вялікае Княства Разанскае.** Тварыла яго беларускае плямя Вяцічы. Прастора гэтага Княства займала гэткія нядаўныя губэрні: Разанскую, часьць Маскоўскай, Тульскую, Калускую і бальшыню Арлоўскай. Разанцы вялі даўгія, упорыстыя й заўзятыя войны з Маскоўцамі, уперад званымі Суздалцамі. З выняткам часьці вяціцкай зямлі, тэй, што на заход ад вышняй Акі, мова Вяцічаў зрусыфікаваная, але ў ёй захавалася гэтулькі беларускіх асаблівасьцяў, што пра яе былую беларускасьць ня можа быць сумлеву.

**Вялікі Пскоў.** Вялікае беларускае плямя Крывічы стварылі ня толькі чыста свае пляменнае гаспадарства — Вял. Кн. Сма-

ленскае, ня толькі часткава пляменна-крывіцкае — Вялікае Княства Полацкае, але яшчэ й чыста пляменна-крывіцкую рэспубліку — Вялікі Пскоў. Прастора яго была ля воз. Пскоўскага і ўздоўж ракі Вялікае, што ўцякае ў гэтае возера. Спачатку Пскоў належыў да Вялікага Ноўгараду, будучы ягоным удзелам. За вызваленьне Пскоўшчыны Вял. Кн. Полацкае вяло з Ноўгарадам даўгія заўзятыя войны. У 1136 г. Пскоў вызваліўся ад Ноўгараду і стаў незалежным. Ён слыў сваім гандлям і багацьцям. Псковічы адзначаліся непрыязьняй да Ноўгараду, як да гаспадарства, што ўперад было іх паняволіўшы, а пасьлей, просьле палітычнага вызваленьня Пскова, не хацела дапусьціць апрычыцца яму царкоўна — маць сваю, асобную ад Ноўгарадзкай, епіскопію.

**Крывічы Цьвершчыны.** Ладная часьць Беларусаў крывіцкага плямені была ў Вял. Кн. Цьверскім. Магло ў ім быць Беларусаў ня меней трайціны ўсяго жыхарства. Апрача Беларусаў, жыхарамі гэтага княства былі Ноўгарадцы і, хіба, Суздалцы. Подле дагэтулешніх дасьледаваньняў выглядае, што Беларусы ў Цьверскім Княсьцьве былі ў меншыні, зн., яны належылі да чужога гаспадарства. Але, з другога боку, ведама, што Княства Цьверскае было антаґоністычным да Масквы, часта рабіла супроць яе хаўрус із Княствам Смаленскім і Вял. Кн. Літоўскім, каторае яму прыяла і яго ад Масквы бараніла.

Значаньне менаваных беларускіх гаспадарстваў для палітычнае гісторыі Беларусі вялікае. Не малое яны маюць значаньне і як арґумэнт да ўзнаўленьня палітычнай незалежнасьці Беларусі. Прыкладам могуць служыць чэскія Судэты. Дарма што яны былі XI—XIII стг. заселеныя суцэльнай масаю нямецкіх каленістых, Чэхі ўважалі іх за сваю гісторычную прастору і дапялі, што Судэты із сваймі трыма мілёнамі Немцаў увыйшлі ў 1918 г. ў склад Чэхаславаччыны. Тым большае павінны маць значаньне менаваныя беларускія гаспадарствы, як заселеныя ня чужым, а сваім жыхарствам. Адылі маюць яны і свае слабыя стараны. Аднэй ізь іх ё тое, што яны ня былі задзіночыўшыся, хоць пачуцьцё нацыянальнае супольнасьці і палітычная салідарнасьць у іх была і рэдчас праяўлялася вельмі моцна. Другой слабой стараною ё далёкі ад нас час іхнага быцьця. Дыкжэ дзеля гэтага праф. М. Чубаты выказаў пагляд у сваіх артыкулах, друкаваных у 1951 г. ў украінскай „Свободе", што, як арґумэнт гісторычны дзеля

ўзнаўленьня ўкраінскага гаспадарства, трэба прыводзіць не гаспадарства старое Кіеўскае Русі, але Галіцка—Валынскае гаспадарства, што трывала 109 год, ад татарскага находу 1240 да 1349г.

## Вялікае Княства Літоўскае.

Даводы пра беларускасьць гісторычнае Літвы прыведзеныя мною ў "Ведзе" ў сшытку зь мес. красавіка—чырвіня 1951 г. Дзеля свайго даўгога быцьця ад пал. XIII да канца XVIII стг., дзеля свае палітычнае магутнасьці, сваіх памераў, культурнае роўні, палітычнага ладу і вытваранага даскана̣льнага права Вялікае Княства Літоўскае ё вялізарным гісторычным арґумэнтам за палітычную незалежнасьць Беларусі. Вялікае Княства Літоўскае задзіночыла ў сваіх граніцах усі беларускія землі, з выняткам беларускай часьці Княства Цьверскага, але й гэта часьць да яго цягнула, Цьвер была пад ягоным уплывам і яго абаронаю і якісь час пад ягоным протэкторатам. Можна сьмела сказаць, што ніводзін із народаў цяперашняга СССР ня можа пахваліцца такой мінуласьцяй, якую маюць Беларусы дзякуючы пэрыяду Вял. Кн. Літоўскага. З усіх т. зв. Славян адна Польшча можа раўняцца да Вял. Кн. Літоўскага, у вадных прыпадках яго перавышаючы, у другіх яму ўступаючы. Правам, вайсковасьцяй, вонкашнай а нутраной палітыкаю сваіх гаспадароў і свае ўлады наагул Беларусь пэрыяду Вял. Кн. Літоўскага бяссумлеву перавышала Польшчу. Да XVI стг. Беларусь таксама культурна перавышала Польшчу, пасьля станаўкая культурная перавага была за Польшчай. Да Люблінскай вуніі 1569 г. тэрыторыя беларускага гаспадарства была шмат большая за тэрыторыю Польшчы. Маскоўшчына-Расія, ведама, даўжынёю свайго быцьця, сваймі памерамі і сваёй пасьлейшай магутнасьцяй перайшла Беларусь, але сваім палітычным ладам, сваім правам, а да XIX стг і сваёй культураю яна далёка асталася ад Беларусі. Што да культурнае роўні народных масаў, дык Беларусь і цяпер перавышае Расію.

Пра тэрыторыяльны развой задзіночанага беларускага гаспадарства мне давялося-б тут сказаць тое, што я карацюсенька напісаў у „Ведзе" з красавіка-чырвіня 1951 г. Дык тых, што гэтым цікавяцца, адсылаю туды, а тут адно зацемлю пра прылучэньне да яго найдальшых беларускіх земляў і земляў чужых. Пачынаючы ад гаспадарстваваньня Вялікага Князя Гедыміна (1316 — 1341) Пскоў належа да задзіночанага беларускага гаспадарства; гаспа-

дары Вял. Кн. Літоўскага бароняць яго сваймі сіламі ваенна й палітычна, апякуюцца з боку царкоўнага, садзяць туды за князёў а намесьнікаў сваіх людзёў. У 1396-7 г. было прылучана да Літвы княства Разанскае.

Аўкштота, адна зь дзьвюх часьцяў цяперашняе Лятувы, была прылучаная да задзіночанага беларускага гаспадарства яшчэ за Міндоўга, першага гаспадара ягонага. У палавіцы XIV стг. былі прылучаныя ўкраінскія землі, а ў другой палавіцы гэтага стагодзьдзя, за Альгерда, беларускае гаспадарства заняло паўночныя берагі Чорнага мора, ад утоку ў яго Дняпра да ўтоку Днястра. У 1411 г. была прылучана Жмудзь.

У вапошняй чэцьверці XV стг. настала нягодная коньюнктура для беларускага гаспадарства, яно мусіла ваяваць адначасна із спадкаемцай татаршчыны Маскоўшчынаю і магутнай у той час Турэччынаю. Дзеля таго ўканцы XV і на пачатку XVI стг. яно траце шмат земляў. Найперш былі страчаныя на карысьць Турэччыны паўночныя берагі Чорнага мора. Вялікае Княства Разанскае было ўзалежненае ад Масквы ў 1483 г. і сусім зьліквідаванае ёю ў 1520 г. Беларускія землі ля вышняе Акі былі захопленыя Масквою ў 1503 г. У гэтым-жа часе былі страчаныя Смаленшчына з выняткам заходняе часьці, Браншчына й Севершчына з выняткам меншае часьці на заходзе, але ў пачатку XVII стг. Беларусы іх адабралі ад Масквы назад і беларускія гаспадарствавыя граніцы на ўсходзе прасьцягаліся за Палянаўку а Масальск, за Бранск а Трубчэўск; гэтак было да 1667 г., калі яны былі страчаныя Андрусаўскім замірэньням.

Пскоў, узалежнены ад Масквы ў 1464 г., быў ёю паняволены ў 1509 г. У канцы семдзясятых і пачатку асьмідзясятых год XVI стг., у часе вайны з Масквою, Беларусы занялі блізу ўсю Пскоўшчыну, але замірэньням 1582 г. за беларускім гаспадарствам засталася толькі бальшыня Пскоўшчыны зь Вялікімі Лукамі, Халмом а. інш. Заставаліся яны ў беларускім гаспадарсьцьве да Андрусаўскага замірэньня 1667 г.

За вайны з Маскоўшчынаю, зь перарывамі ад 1558-1582 г., ды Швэдамі й Даняй, Палякі ў 1569 г. адабралі ў Беларусі ўкраінскія землі (із згодаю Украінцаў) і ладныя часьці земляў этноґрафічна беларускіх, наймя часьць Падляшша (пасьлейшыя паветы Беластоцкі, Аўгустоўскі і часьці іншых), паўднявую часьць усходняга Палесься (на паўдня ад пасьлейшай адміні-

**шаць***, ск. узрушыць* — а) возбуждать. Пераз злосьць сваю іншым людзём гнеў Божы ўзрушае Кіт. 48б. — б) возму-щать, -тить; волновать, взволновать. Узрушыў мае сэрца Нсл. 55. Усю кроў ува мне ўзрушыла Тм. **узрушоны*** — возмущенный, взволнованный. Сэрца маё узрушонае Тм. **узрушэньне***, -я — душевная тревога (возмущение, волнение — Я. С.) Нсл. 55. Ад узрушэньня захварэў Тм. зв. **узрушыцца*, узрушацца*** — а) возму-титься, -щаться (і взволноваться, волноваться — Я. С.) Нсл. 55. Ня ўзрушайся гэтаю весьцю, можа й няпраўда Тм. Узрушыўся дарма Тм. Дарма ўзрушыўся на мяне Тм. б) подняться, восстать. Урад ураду ку пайманьню таковага сказанага помач даваці павінен, але ўрад мескі і места, у каторым ся то дзеяці будзець, проціў такому непаслушному або праціўнаму ўзрушыціся маюць, яка-бы таковы свавольнік пайман і да вязеньня дан і подле сказьні ўрадовае каран быў 206. **непарушны*** — ненарушимый. Непарушнае слова Нсл. 335. Непарушная ўмова Тм. **непарушна***, прс. — ненарушимо Тм. Бацькава расказаньне непарушна дзяржы Тм. Павінні права, вольнасьці й свабоды іх цэла й непарушна дзяржаці 7.

**рукаемства, рукоймі, ручыць, паруч-аць, -ацца, -ыць, паручэньне, паручнік; зарука, заручны ліст, заклад, -нік.**

**рукаемства***, -а — порука. Каго-бы ўрад на горла сказаў, маець па сабе пэўнае рукаемства даці людзьмі аселымі, што ся ку расправе перад Судом Галоўным станавіці будзець 443. Таковага вязьня ўрад наш ня маець на рукаемства без дазваленьня стараны тае, каторая яго асадзіць, даваці і зь вязеньня выпушчаць 434. У вязеньню патуль маець сядзеці, пакуль рукаемства на том дасьць, іж старане сваёй за ўсё досыць учыніць, а ня будзець лі меці рукаемства, тагды ўрад старане повадавай віннага выдаваці маець 248.

**рукоймі**, -і — взятый на поруку. А ведзь-жа каму быхма хацелі таковага лісту зялезнага ўзычаці, тагды з канцлярыі нашае тот маець быці адаслан да ўраду нашага належачага, адкуль ёсьць; перад каторым урадам, хто таковага лісту зялезнага патрабуець, маець рукаемства паставіці, людзей аселых, і уісьціціся імі і іх маемасьцьмі, іж ня зьнікнець у тых лецех, яка на лісьце яму назначана. А на апошні дзень высьця року будуць павіньні рукоймі вонага на том-жа ўрадзе паставіці, а даўжнікі даўгоў і вонага існа ў таго ўраду ўпамінаціся, найдаваці й даходзіці будуць; а есьлі-бы рукоймі не паставілі, тагды самі за лісты або

за даводам праўным тыя даўгі павінні будуць плаціці. Ведзьжа, гдзе-бы ў том часе, на лісьце замераным, тот чалавек доўжны ўмер, тагды паручнікі ў той рэчы вольні будуць 93.

**ручыць, -**чу, ск. паручыць **па кім, чым** — 1) ручаться, поручиться за кого, что. Маець быці дан за добрае рукаемства людзём добрым, а тыя альбо тот паручнік маець па том ручыці, што воны жалабнік ад таго, хто адпаведаў, здароўя свайго бясьпечан будзець 424. Укрыўджаны таго на паручніку, а паручнік на том, па ком ручыў, праўне даходзіці маець 379. — 2) **каму** — поручить кому. **паручэньне*** — поручение. **з паручэньня*, за паручэньням*** —по поручению. Есьлі-бы хто хацеў чараз каго інога пенязі тыя браці, тагды інакшай ня можаць браці, толька чараз таковага слугу свайго, каму-бы асабліваую на то моц і паручэньне лістом сваім даў 242. Паручыў каму другому мовіці 238. Хто на тот час у дому яго з паручэньня яго старшым будзець, маець на том прысягнуці 436. Урады нашы судовыя, за паручэньням нашым месца нашае гаспадарскае засядаюць 76. **паручацца*** — поручать себя. З тым ся ласцы й міласьці Вашых Міласьцяй паручаю 7. **паручнік*,** -а — поручитель Нсл. 476. Паручніка за сябе пастаў Тм. **паручніца*,** -ы — поручительница. **зарука*, -і** — 1) денежный штраф, указанный в постановлениях суда для случаев их нарушения. — 2) гарантия. **заручны ліст*** — документ о „заруке”. **заклад**-у — зарука ў першым значаньню. Будуць лі на лісьцех дзельчых паложаны якія абавязкі, зарукі а няўзрушаньню таго дзелу, тагды такія зарукі кажны подле свайго абавязку з рассудку праўнага заплаціці вінен будзець 370. Хто-бы на ком што правам прэзыскаў, то ёсьць іменьне, людзі або землі, тагды маець у то яму увязаньне з права дано быці, а з ураду зарука маець быці паложана, абы тот, хто на праве ўпусьціў, увязаньня не бараніў; а пак лі бы увязаньня не дапусьціў, тагды ў том за позвы правам пераканаи, тую заруку, з ураду палажоную, маець плаціці старане жалаблівай 255. У том лісьце запаведнам, напісаўшы тую зямлю, гдзе збожжа засеяна, маець быці даложана пад закладам на ўрад і старану дванаццацьма рублямі грошай, абы тот, хто сеяў, таго збожжа ня звозіў 366. За галаўшчыну й шкоды такога вознага або стараны забітае ўрад савітае сказаньне й увязаньне ў іменьне такога непаслушнога даці маець, палажыўшы на лісьце ўвяжчам яшчэ так вялікі заклад, яка самае рэчы скажаць 179. Маем даваці а бясьпечнасьць здароўя падданым нашым, за пахвалкамі чыймі колечы проці іх, на кажнага,

з канцлярыі нашае лісты заручныя і закладу на іх казаці апісаваці межы шляхтаю — з абу старон маець быці заклад або зарука пакладана. А тая зарука пакладана быці маець у лісьцех заручных а бясьпечнасьць здароўя самых асоб. А хто-бы абнесен будучы ўрадоўне лістом нашым або ўраду нашага заручным, а чараз тот заклад наш каго забіў, тагды горлам маець быці каран бязь міласэрдзя. А тае зарукі, на лісьце апісанае, палавіца на нас гаспадара, да скарбу земскага Вялікага Княства Літоўскага, а другая палавіца на дзеці, патомкі або блізкія забітага і на йменьню праціўніка адпраўлена быці маець. А хаця-бы хто і не забіў, але раніў або бой чараз заруку ўчыніў, тот так жа ў заруку упадаваець. А есьлі-бы тот, каторы заруку вынес, забойства або зраненьне вонаму, на каго заруку ўзяў, учыніў, тот сам таковаю-ж віною маець быці каран 90.

Прыраўнуй цяперака: **зарука,** -і — ручательство (гарантия, жиро? — Я. С.) Нсл. 183. Даць грошаў пад заруку Тм. **заклад*,** -у — 1) залог Шсл. На заклад купіў мукі Ст. Кажух аддаў у заклад Тм.—2) пари Ар.; Шсл. Маргрынкава Куз. (Ксл.). Ну, пойдзем у заклад, што мая праўда Тм. Што дасі ў заклад, калі я ня так кажу? Ст. **закладаць*,** -аю 1 — 1) закладывать Вяц., Тмб. (Даль); Харавічы Сьміл. (Шсл.). — 2) залагать Нсл. 170. Закласьці двор у скарб Тм. Узаем. **закладацца*,** -аюся 1, ск. закласьціся*, -дуся 1 — итти в пари. Не закладайся, праграеш Нсл. 170. Закладземся аб рубля Тм. **закладзены*** — данный в залог Нсл. 170. **закладнік*,** -а — залогодатель Нсл. 170. Закладнік і закладу адрокся Тм.

**сабечыць*,** -чу 2, ск. **прысабечыць*** — 1) приобретать в собственность Нсл. 598. Кажны сабе сабечыць лішнюю капейку, а мы ніколі нічога не прысабечым, калі так расходава будзем жыць Тм. — 2) присваивать себе. Тм. Мае рукавіцы ўзяў ды сабечыць, прысабечыў Тм. прысабечаны* — 1) приобретенный в собственность. — 2) присвоенный. **прысабечаньне***-я — 1) приобретение в собственность. — 2) присвоение.

**самадыя***-і (націск на -ды-) — произвол Ар.

**самадыйнік*,** -а, ж. **самадыйніца*,** -ы — поступающ-ий, -ая по произволу, самовольно Ар.

**самадумам*, сваім адумам*** (націск на -ду) — самовольно Ар.

**сачыць*,** -чу, сочыш, ск. асачыць* — следить, выследить Ар. Асачыў гняздо вароны. Ар. Сачыць, асачыць курыцу, дзе яна нясецца Нсл. 602. **прысачыць*** — выследить Красьніна Чаш. (Ксл.).

Прысачыў ваўкі, надабе наказаць у Фатынь, каб аблаву ўладзіць Тм. Прысачыць курыцу Нсл. 511. Я цябе прысачу, куды ты бегаеш Тм. **прысочаны*** — выслеженный. Курыца прысочана Нсл. 511. А есьлі... ліцо ў дому найдзена альбо сьледам прысочана, а то маець быці суджана подле Статуту 499. Значыцца, **прысачыць** мае тое самае значаньне, што **асачыць,** але калі асачэньне робіцца зь меншым стараньням, ня так грунтоўна. Пр. **зачыніць, накрыць, закрыць** і **прычыніць, прыкрыць. усачыць*,** нв. усочаваць* — выследить, выслеживать. Усочавай, усачы, куды курыца ходзе несьціся Нсл. 666. **усочаны*** — выслеженный. Курыца ўсочаная на яйцах Тм. **сачэньне*,** -я — слежка. **асачэньне*** — открытие слежкою. Абяцуем словам нашым гаспадарскім, іж на жаднага чалавека выданьне або асачэньне яўнае, таемнае падазрэньне... вініці й караці ня маем 66. **абсочны сабака*** — который „сочыць" — выслеживает, ищейка. За пса абсочнага — тры рублі грошай 474. **абусока*,** -і — окружение после выслеживания Хабаты Куз. (Ксл.). На ваўкі абусоку зрабілі добра Тм. **прасока*,** -і — следствие. Хто-бы каму ў дому альбо ў лесе на дзераве з вульля або з караніка паставенага пчолы выбраў або з вульлём узяў, а дашлі-бы яго капою альбо якою прасокаю, тагды маець заплаціці тры рублі грошай 383. Слова „прасока" ў гэтым-жа значаньню ўжывае таксама Марцінкевіч у камэдыі „Пінская шляхта". **сок*,** -а — сыщик; следователь. У вабражаньню майстату нашага ня леда за асачэньням або абмовеньням маемся на падданых нашых скваляці, але хто на каго абражэньне майстату вядзець маець давесьці сяма сьветкамі, і то пры праўных даводзех і яўных а пэўных знакох таго таковага ўчынку. А есьлі-бы хто каго абмовіў у том учынку, а злашча, гдзе-б яго мяніў, што нам гаспадару на здароўе стаяў або Рэч Паспалітую зрадзіці і ку упадку прывесьці хацеў а на то ся гатаваў, а таковы павядач і сок есьлі-бы такім яўным сьветчаньням не давёў, сам адсуджэньням пасьцівасьці і горлам маець быці каран 69.

**ся*** — ша. Ар.

**сябра й учасьнік.**

**сябра*,** -ы, м. — имеющий что-либо общее — материальное или общую идею с другим или с другими, следовательно коллега, член, соучастник Ар. Пятрок быў мой сябра, зь ім мы доўга дружылі Рыбчына Сір. (Ксл.). Яны сябры між сабою. Нсл. 631. Прышоўся із сябрамі сваймі Тм. Кольканаццаць учасьнікаў або сяброў у вадной рэчы адцягалася 171. Як брацьцю нядзельную або

ўчасьнікаў, то ёсьць сяброў пазываці 247. **сябрыня*,** -і (націск на -ы-) — женщина „сябра" Сц. **сяброўка*,** -і — женщина „сябра" Пархв.

**сябраваць*,** -рую — быть „сябрам" Ар. Калісь мы зь ім сябравалі Рыбчына Сір. (Ксл.).

**сябраны*** (націск на -ны) — принадлежащий двум, нескольким или многим „сябром", кооперативный, артельный. Колька брацьці або ўчасьнікаў дзяржалі адно йменьне сябраное 247.

**сябрыха*,** -і — общественное недвижимое имущество (поле, луг, лес) Ар. Калі будзем сябрыху касіць? Тм.

**сябрына*,** -ы (націск на канцу) — артель, кооператив.

**сяброўства*,** -а — состояние „сябрам". У старыну мы вадзілі сяброўства Рыбчына Сір. (Ксл.).

**сябрук*,** -а — сотоварищ, соучастник в деле или работе Нсл. 631. Зыбраліся сябрукі Тм.

Блізкое значаньням да „сябра" ё слова „учасьнік". Часта ўчасьнік ён-жа й сябра. Але не заўсёды. Гэтак, можна быць **учасьнікам, учасьніцаю** зборкі, зьезду, чэсьці, ігрышча, нападу, але **сябрам, сяброўкаю** іх ня будзеш. З другога боку, вучаньнікі тае самае школы сяброве міжсобку, таксама вучыцялі міжсобку, але яны ня ўчасьнікі. **учасьнік*,** -а, ж. **учасьніца*,** -ы — участ-ник, -ница, совладел-ец, -ица. Прыклады пад „сябра".

Слова „ўчасьнік" пэўнае крывіцкае, але сумлеўнае „ўдзельнік" і твораныя ад яго, ужываныя ад нядаўна ў друку заміж „учасьнік" і аднакарэнных ізь ім. У кажным прыпадку слова „удзельнік" патрабуе пацьвярдзеньня яго прыкладамі із сучаснай мовы народнай або із старой — літаратурнай або народнай.

**сваволенства,** -а — своеволие. Паўсьцягаючы мы гаспадар сваволенства... уставуем: 445. Сам сваволенства ўжываючы... вуха ўцяў або урэзаў 409. За віну такога сваволенства будзець вінен за кажны члонак па пяцьдзесяці коп грошай плаціці Тм.

**схаваньне*, захаваньне*** — поклажа, хранение.

**схаваць*** — сохранить. А рэчах зьгінулых у чыём схаваньню 336. Хацеў рэчы рухомыя ў захаваньне даці Тм. Злажыў у яком схаваньню рэчы сваі Тм. Толька таго рэчы, хто даў схаваці, згарэлі Тм. А пак лі бы ў чыём схаваньню таковыя рэчы ўзяты былі ад каго гвалтам, тагды на абжалаванам тот, у чыём схаваньню было, даходзіці іх маець Тм.

**с'ем,** сойму — сейм. Калі хто для спраў сваіх судовых, на

с'ем прыпадаючых, альбо ў пасолсьцьве будучы адправеным, на с'ем паедзець, ведзьжа тае бытнасьці сваяе на сойме маець пасьветчаньне паказаці 351

**селавая грумада*** — сельское общество.

**сыньні*** — сыновний Аш. 302.

**сырызна,** -ы — сырье Ар.

**скарб*,** -у — 1) государственная казна Ар.; Нсл. 581. Скарб багаты, багатшы за нас Тм. Тае зарукі палавіца нам да скарбу земскага 90. — 2) клад Ар.; Летцы Куз. (Ксл.). Івановы скарб у валатоўцы знайшлі. Тм. Калі-б лучыла каму знайсьці ў зямлі які скарб, грошы, золата, тагды маець таму скарб быці 373. — 3) денежная сумка или имущество какого либо общественного заведения Нсл. 581. Скарб царкоўны, шпітальны Тм. — 4) имущество, пожитки частного лица Тм.; Іванова Куз. (Ксл.) Ён забраў свой скарб і пацёгся Тм. Скарб панскі Нсл. 581. Гэтыя багатыры, каторыя давалі скарб на інтэрас Кіт. 130 а. — 5) сокровище Гсл.

**скарбнік*,** -а, ж. **скарбніца*,** -ы — казначэй. **падскарбі,** -яга — носитель должности центрального финансового управления.

**скарбніца*,** -ы — кладовая, хранилище денег и драгоценностей Нсл. 581. У яго скарбніца поўная ўсякага дабра Тм.

**скарбовы*** — казенный Ар.; Нсл. 521. Стаішча Чаш. (Ксл.). Ля скарбовага жыта коні ходзяць Тм. Статак пасуць на скарбовым Ст. — 2) финансовый Гсл.

**скарбонка*,** -і — 1) ящичек (кружка — Я. С.), с которым староста церковный ходит во время Богослужения для испрошения подаяния в церковный доход Нсл. 581. Укінь шага ў скарбонку Тм. — 2) ящик, прибитый у дверей церковных для подаяния на богоугодные дела Тм. Скарбонка для бедных Тм. — 3) вообще ящичек, кружка для сбора пожертвований, напр. во время уличного сбора. Зьм. **скарбоначка*** — копилка.

**скарбонкавы*** — кружечный (напр. сбор пожертвований).

**скарбёнка*,** -і = скарбонка Шсл. У гэту нядзелю хадзілі па Сьмілавічах із скарбёнкамі — зьбіралі грошы на бедныя дзеці Ст.

**скарысьціць,** -шчу, -сьціш — использовать. Маець на том прысягнуці, іж воных рэчаў не скарысьціў 336. Слова стрэлася ў Статуце толькі раз.

**скрыўдзіць** — гл. крыўдзіць.

**слова ад слова*** — слово в слово. Слова ад слова да кніг упісаці маець 282. Тот артыкул слова ад слова ёсьць упісан 160.

**снадзіва***, -а (націск на сна-) — инструмент (кроме музыкального) Фрсл.

**снадзь***, -і = снадзіва Фрсл.

**собскасьць***, -і — собственность.

**собскі** — собственный Дз.; Бр.; Вал.; Мал.; Магілеўш.; РСБ.

**собсьнік*** -а, ж. **собсьніца***, -ы — собственн-ик, -ица

**сойм***, -у — сейм.

**Сойм Вялікі*** — государственный сейм, сейм со всего государства. Будзем павінні кажнаму з падданых нашых, каму-бы шло а чэсьць, неадвалочную справядлівасьць учыніці на першым Сойме Вялікам без усякае адвалокі 93.

**сок** — гл. ля сачыць

**спаважнасьць***, -і — серьёзность.

**спаважны*** — серьёзный, **спаважна*** — серьёзно.

**спаган-яць, -яньне, спагн-аць, -аньне, спагон, -ьнік, -ьніца** — гл. ля зыскуючы.

**спадак***, -дку — наследство.

**спадаць***, ск. **спасьці***, -ду, -дзеш на каго, па кім — достаться, переходить по наследству Нсл. **спалы*** — доставшийся, полученный в наследство. На каго-бы маемасьць ляжачая або рухомая спала, павіньні будуць, есьлі а суму пенязяй пазычаную пазавуць, заплаціці 329. Жана мела йменьне спадкавае Тм. Есьлі-бы ацец або матка адумерлі права на які спадак, каторы-бы ім па яком блізкам прыналежаў, тагды дзеці дашэдшы таго спадку правам, па ім спалам, павінны зь яго даўгі айцоўскія й матчыны плаціці Тм. Тое йменьне на дзеці яе спадзець 288. Двор братні спалы на дзеці нашага пана Нсл. Пану двор спадае, спаў Тм.

**спадкавы*** — наследственный.

**спадкаемства***, -а — наследование.

**спадкаемца***, суп. — получающий или имеющий право на наследство, наслед-ник, -ница. Слова створана подле **душаемца** „То ест душаемца Езраіл". Кіт. 125 а. Азраілам мусульмане завуць ангела сьмерці, таго, што бярэць душу, адгэтуль пакрывіцку душаемца.

**спадчыннасьць***, -і — наследственность Акін. 194; Гар-Байксл.

**спадар***, -а — господин. Служыць сваім спадаром ку кажнай патрэбе 14.

**спадарыня*** — госпожа.

**спадарычна*** — барышня.

**спадарства*, -а** — господа, мужчины и женщины вместе.

**спадчына,** -ы = **спадак** Мн., Сц. (Ад.).

**спачатны*** — гл. пачатны.

**спэктар*,** -а, ж. **спэктарка*, -і** — инспектор, -ша Аш.

**стаяць, стаячыя** у **праве*** — гл. ля пазываць.

**станавіціся*,** -ўлюся, -вішся, ск. **стаць,** стану, -неш — являться, явиться.

**станьне*, -я** — явка. **нястаньне*** — неявка. **нястаннае*,** -ага — штраф за неявку. Кажны павінен перад ім (судом земскім) станавіціся; і а том, хто-бы перад ім ня стаў, або, стаўшы, з права перад выракам проч зышоў 166. Старана пазваная сама павінна ў суду станавіціся 202. Старана пазваная, стаўшы на року, паведзіла, што пазоў згубіла 189. Для вонага нястаньня свайго на рочках першых маець на другіх рочках, бяз жадных даводаў, рэч траціці 197. Хто-бы на першых роках земскіх ня стаў, а нікаторае прычыны слушнае нястаньня свайго ў суду не апаведаў, таковы маець старане заплаціці нястанага чатыры капы грошай 190.

**стануць*,** -ну, -неш — потонуть ШСЛ. Няхай яно стане такое жыцьцё! Ст. **станулы*** — потонувший. Тавар станулы купец маець дабравольне з вады выбіраць 373.

**старавечны*** — древний Нсл. 613. Старавечны звычай Тм. Старавечныя людзі, кажуць, жылі доўга Тм. На старавечныя гэрбы Сапегі эпіграма.

**старожа*,** -ы — 1) стража Нсл. 616. Старожаў паставіць к некрутам Тм. На старожу пайшоў Тм. Ад усякае старожы выняты суць 141. Маюць тыя турмы за пэўнаю старожаю 415. — 2) сторожевая застава.

**старана*,** -ы — в знач. глагола, быть в стороне или быть устраняему Нсл. 616. Ты тут старана, табе няма дзела да нас Тм.

**старана адпору** (адпорная, пазваная) і **жалабы** (пазоўная, жалаблівая, жалабная, балячая) — гл. ля пазоў.

**староньні*** — посторонний Гсл. Маець паставіць дзевяць сьветак, людзей добрых, веры годных, а не падданых таго ўраду, прысуду свайго, але іншых, староньніх 362.

**староньнік*** — то же, что противник, но в меньшей степени Ар. Я не староньнік гэтае ўлады Ар. (значыць: я яе не старанюся).

**статут*** — 1) уложение (кодекс). — 2) устав.

**струмэнт*,** -а — инструмент (музыкальный).

**суд***, -у — суд.

**судовы*** — судебный Стт.

**судзтва***, -а — должность судьи. **падсудзтва** — должность „падсудка” — младшего члена суда. На тыя ўрады, яка на судзтва, на падсудзтва, ня маюць быці выбіраны духоўныя асобы 165.

**судзьдзя***, -і — старший член суда. **падсудак**, -дка — младший член суда. рассуджаць*, -аю 1 што — разрешать (решать), судить, ск. **рассудзіць***, — -джу, -дзіш — вынести решение. **рассуджэньне***, -я — вынесение решения. **рассудак***, -дку — решение. Каштальянове, маршалкове або старастове віньні будуць справядліва такія рэчы рассуджаваці 352. Падкаморы маець рассуджаці й гранічыці 347. Урад наш у той рэчы прамежку іх рассудзіці і віннага подле права караці маець 477. Таварыш іх із шляхтаю будзець меці моц дзьвюх асоб тым абычаям ку рассуджэньню тых спраў абраці 169. На сойме з рассудку нашага, гдзе ся то пакажаць, чэсьць і горла траціць 80. Да выеханьня й рассудку камісарскага прысяга старане маець быці задзержана 353. Такія зарукі кажны подле свайго абавязку з рассудку праўнага заплаціці вінен будзець 370. Таковы з права і рассудку нашага чэсьць і горла траціць 67. Рассудку яго кажны трымае Кіт. 107 б. **адсудзіць* ад каго** — вынести решение не в пользу чью-либо. **адсуджаны*** — получивший решение не в свою пользу. Тую апеку ад таковага апякуна адсудзіўшы, каму іному паручыці 305. Чсьці адсуджаныя ня могуць дастамэнту чыніці 338. **прысудзіць*** каму што — вынести решение в пользу кого-либо. **прысуджаны*** — решенный (определенный) судом в пользу кого-либо. **прысуджэньне*** — вынесение решения в пользу кого-либо. Што каму на іспашы прысудзяць шкоды, тот пан, чые быдла занята, маець плаціці 467. Тое йменьне таму, хто ішчаць, прысуджана быці маець 333. Ґрунтоў на ўвязаньне за суму прысуджаную не ставала 276. Па прысуджэньню на том іменьню якое сумы пеняжнае ўвязаньня вознаму бараніў 274.

Ці суд прысудзіў што каму, ці адсудзіў што ад каго, ён рассуджаў, а рассудзіўшы маў **рассудак** — „решение”. Цікава, што „рассудак” ужываецца і ў „Аль кітабе”, пісаным народнай мовою XVI ст., знач. гэтае слова ўжывалася і ў мове народнай Пр. **вырок. перасуд***, -у — плата за судебное производство. Калі суд земскі каму што на ком прысудзіць, тагды ад прэзыску таго, хто зышчаць, маюць сабе браці за працу сваю перасуду ад капы

літоўскае па два грашы літоўскіх 170. Ён суды судзе, перасуды бярэць. З народн. песьні (Ад.) **прысуд*,** -у — юрисдикция. А будзець лі абвінен у такіх рэчах крывавых наш падданы іншага прысуду, а не таго, дзе торг будзець... весьці яго да таго ўрадніка нашага, у чым прысудзе есьць 482.

**сумежнік*,** -а — имеющий с другим что-нибуць „сумежнае" — смежное, нпр. поле, луг и пр. Можаць абмова проціў року йці сумежнікам тым 351.

**сумежны*** — смежный Гсл.; Нсл. 622. Нашы землі сумежныя Тм. Абасланьне сусядоў гранічных і сумежных ку выеханьню на грунт 346. **сумежна*,** прс. — смежно Нсл.

**сумесны*** — принадлежащий нескольким, нераздельный Нсл. 622, совместный. Сумесны наш двор Тм. Сумесная работа Тм. У нас із табою ўсё сумеснае Тм. Мелі йменьне сумеснае — неразьдзельнае 370. **сумесна*,** прс. — совместно, вместе Нсл.; Навікі Віц. (Ксл.). Сумесна пахалі, сумесна жылі Тм. Сумесна весялей рабіць Нсл. 622.

**сумесьнік*,** -а, ж. **сумесьніца*,** -ы — совмест-ник, -ница, соучаст-ник, -ница Нсл. 622; Амілянова Лёз. (Ксл.). Я з адным сумесьнікам зраблю вам пуню Тм. Ты сумесьнікам яго быў Нсл. 622. І ты лучыла тут у сумесьніцы! Тм.

**сумляваццa*,** -аюся 1 — сомневаться Віл.; Сьліжыкі Куз. (Ксл.). Я сумляваюся ў тым, што ты кажаш Тм.

**сумляцца*,** -яюся 1, ск. **суміцца*** (націск на мі-), -млюся, -мішся — сомневаться, усомниться Нсл. 622. Ня сумляйся ні ў чым; чаго ты суміўся? Тм.

**сумленны*** — 1) совестливый Сукрэмна Сян. (Ксл.). Сумленны чалавек Тм. Сумленны чалавек гэтага ня зробе, ня скажа Нсл. 622. — 2) добросовестный. Сумленная работа. **сумленна*,** прс. — добросовестно. Сумленна ўсё аддаў Нсл. 622.

**сумленьне*,** -я — совесть Ар.; Гсл.; Нсл. 622; Дабрамысьль Лёз (Ксл.). Сумленьне ў ім загаварыла Тм. Яшчэ сумленьне мае, што аддаў Нсл. 622. Маё сумленьне чыстае Тм.

**сумлеў,** -ву — сомнение Віл. **бяз сумлеву** — без сомнения Віл. **сумлевак*,** -ўку — сомнение Віл. **бяз сумлеўку*** — без сомнения Віл.

**сумлеўны*** — сомнительный Віл. **сумлеўна*** — сомнительно Віл.

## РАДЗІМІЧЫ Й ВЯЦІЧЫ

У „Павесьці временных лет" чытаем, што **два браты,** „Радим, а другий Вятко, — и пришедъша сѣдоста Радимъ на Съжю, и прозвашася радимичи, а Вятъко сѣде съ родомъ своим по Оцѣ, от него же прозвашася вятичи"[1]). Гэткім парадкам, летапісец прызнаець, што гэтыя плямёны найбліжшая радня сабе. Бяссумлеву, такой самой блізкой раднёю былі Радзімічам а Вяцічам і іншыя паўдзённыя плямёны беларускія — Севяране, Дзярвяне а Дрыгвічы і крышку дальшай раднёй Крывічы. Адылі гэтая зацемка летапісцава, а яшчэ больш выводжаньне летапісцам Радзімічаў а Вяцічаў ад Ляхаў змушае нас разглядаць гэтыя два плямёны разам, прынамся часткава.

**Зямля Радзімічаў** была ля Сожа, левае прытокі Дняпра. Радзімічы займалі нядаўныя паветы Гомельскі, Рагачэўскі, часьць Старабыхаўскага, Чэрыкаўскага б. Магілеўскай губ., Сураскага й Мглінскага б. Чарнігаўскай губ. На поўначы мяжа Радзімічаў із Крывічамі, відавочна, зыходзілася зь мяжою недысыміляцыйнага аканьня паўдзённа-беларускага, а значыцца й радзіміцкага, з дысыміляцыйным крывіцкім. Суседзьмі Радзімічаў на паўдні былі Севяране, і на заходзе Дрыгвічы.

У Радзімічаў былі месты Гомель, Прапошьск (цяпер Прапойск) і Чачэрск.

**Зямля Вяцічаў** была спачатку ля вышняй а крыху пасьлей і ля сярэдняй Акі. Даведаваемся пра гэта ня толькі з „Павесьці временных лет", але і з падзеяў X-XIII стг. Гэтак у пачатным летапісцу чытаем пад 964 г., што кіеўскі князь Сьвятаслаў „Иде на Оку реку и на Волгу, и налѣзе Вятици, и рече Вятицемъ: „Кому дань даете?" Они же рѣша: „Козаром"... Валадзімер Манамах едзе ў Ростаў у XII стг. „перазь Вяцічы", як ён кажа ў сваім летапісцу. „Што зямля Разанская была занята Вяцічамі, відаць із пасьлейшых летапісных ведамкаў, дзе Вяцічаў утажсамляюць із Разанцамі („Вятичи еже есть Рязанци")[2]). Вяцічы суседзілі на заходзе з Крывічамі, на поўначы із Суздалцамі (пасьлей званымі Маскоўцамі), на паўночным усходзе з фінскай Мераю і на паўдню із Севяранмі. Яны займалі прастору гэткіх былых губэрняў: усю Калускай, усю Тульскай, большую часьць Арлоўскай,

---

[1]) Повесть Временных лет, Масква-Ленінград 1950, I, бач. 14.

[2]) Шахматов: Введение, 112.

усю Разанскай і часьць Маскоўскай. Гэта была бацькаўшчына, мітраполя Вяцічаў. Як пабачым ніжэй, яны з часам яшчэ пашырыліся адгэтуль далёка на паўднявы ўсход.

У Вяцічаў былі гэткія месты: Разань, Пронск, Расьціслаў, Казельск, Елец, Каломна, Кашыра, Сярпухоў.

**Радзімічы а Вяцічы спрадвечныя ралейнікі на лядах.**

У Пачатным летапісцу пад 984 г. чытаем: „Быша же Радимичи отъ рода Ляховъ, пришедъше ту ся вселиша, и платять дань Руси, повозъ везуть и до сего дне", а ў „Павесьці временных лет" ёсьцека: „Радимичи бо и Вятичи отъ Ляховъ бяста бо два брата въ Лясѣхъ, Радим а другий Вятко, — и пришедъша сѣдоста Радимъ на Съжю, и прозвашася радимичи, а Вятъко сѣде съ родом своим по Оцѣ, от него же прозвашася Вятичи" [3]. На подзе гэтае летапіснае зацемкі Шахматаў (Введение...) давадзіў, што Радзімічы й Дрыгвічы (але!) былі польскімі плямёнмі, дарма што „Сьцяг дарэволюцыйных дасьледаваньнікаў не прыдаваў ніякага значаньня гэтай летапіснай ведамцы... Сьмелая, але абмыльная гіпотэза А. Шахматава была сустрэна нэґатыўна бальшынёй дасьледаваньнікаў. Акад. Ю. В. Гоцье ў сваёй крытыццы гіпотэзы А. Шахматава адцеміў, што памяткі археолёґічныя не даюць подаў („оснований") дапусьціць гэткае надзвычайнае перасяленьне плямёнаў". [4]) Пічета: Образование блр. народа (Вопросы Ист., 5-6, бач. 14). Супроць гэтае гіпотэзы Шахматавае былі Д. Багалей, [5]) М. Грушэўскі, [6]) А. Сабалеўскі, [7]) Л. Нідэрле, [8]) Яўх. Карскі, [9]) Чарнышаў і інш. Да гіпотэзы Шахматавае сьхінаецца польскі этноґраф Фр. Буяк, але польскія моваведы (В. Поржэзінскі а інш.) не згаджаюцца з паглядам, што Радзімічы, Вяцічы й Дрыгвічы польскія плямёны, а зь імі згаджаецца польскі антрополёґ, Я. Чаканоўскі. [10])

Арґумэнты супроць гэтае гіпотэзы Шахматавае я прывёў у

---

[3]) Цыт. „Повесть временных лет" 1, б. 14.

[4]) Готье Ю.: Железный век в восточной Европе, бач. 213-219.

[5]) Ист. Северск. земли, б. 10. [6]) Іст. Укр.-Руси, 1, 188. [7]) Заметки по славян. древностям (Изв. ОРЯС, т. XXXI, 1926, бач. 4).

[8]) Slavia, I, 1922-23, б. 138. [9]) Белоруссы, I, 71-72.

[10]) J. Czekanowski: Polska-Słowiańszczyzna, Warszawa 1948, 123-124.

варт. „Беларускія плямёны й іхнае расьсяленьне". [11]) Гэтта адно зацемлю, што даныя археолёгіі й гісторыі не даюць подаў да гіпотэзы Шахматавае, наадварот, часта ёй пярэчаць; што да мовы, дык Шахматаў у гэтай гіпотэзе праявіў недастатнае знацьцё беларускіх моўных фактаў. Быстры Шахматаў, будучы выдатным моваведам, борзда й лёгка будаваў свае тэорыі, але будаваў іх зьверхне, часта опэраваў дагадкамі, будаваў адну гіпотэзу на другой. Прыкладам можа служыць тое, што ў варт. „К вопросу об образовании русских наречий и русских народностей" [12]) Шахматаў не ўважаў Радзімічаў а Вяцічаў за польскія плямёны і даводзіў, што Разанскую зямлю занялі Севяране. Але ў „Курс ист. русс. языка", 1911-12, і ў „Введение в курс ист. русс. языка", 1916, у яго ўжо Радзімічы й Дрыгвічы (ня Вяцічы) — польскія плямёны, разанскую зямлю прызнаець тут Вяцічам, а Севяран пакідае сядзець у іхнай Севершчыне ды прызнаець іх украінскім пляменям. Адылі, відаць, нябыў пэўны, што да ўкраінскасьці Севяран, бо свайму вучаньніку, П. Растаргуеву, упорыста зычыў заняцца сваёй роднай северскай гаворкаю [13]) (Растаргуеў паходзе із Старадуба). Тый паслухаў і давёў, што Севяране беларускае племя. Пасьлей Шахматаў у разьдзеле III працы „Древнейшие судьбы рус. племени", Петраград 1919, залічае й Вяцічаў да польскіх плямёнаў.

Адзіным апірышчам Шахматаву была менаваная зацемка ў летапісе, што Радзімічы й Вяцічы ад роду Ляхаў. Адылі, калі гэтую зацемку так разумець, як разумее яе Шахматаў, зн., што гэтыя плямёны польскія, то аўтар летапісу пярэча сам сабе, бо ў іншым месцу кажа, што „Радимичи, и Вятичи, и Северо одинъ обычай имяху"... Калі-б Радзімічы й Вяцічы былі Палякамі, то яны не маглі-б мець аднолькавых звычаёў із беларускімі Севяранмі. Апрача таго, пачатны летапіс завець Ляхамі не адных Палякоў, але таксама Люцічаў а ўзморскіх Славян, кажучы **„іншыя Ляхове Люцічы,** іншыя Мазаўшане, **а іншыя Памаране".** Пытаньне выясьнім, калі зьвернем увагу, што назову „Лях" адказуе прыметнік **„лядскі"** (з „д"), заўсёды ўжываны ў старабеларускай мо-

---

[11]) Родная мова, Вільня 1930. бб. 6, 7, 9, 11, 12, 13, 14, 50, 52, 53.

[12]) Журнал министерства просвещения, зборнік 322, 1899, красавік.

[13]) Гл. перадмову Растаргуева да ягонае працы „Северско-белорусский говор", 1928.

ве, і што ў мове лятувіскай Паляк завецца **Lenkas** (з „н"), што можа паходзіць толькі ад **Lęchъ** (павугорску Паляк завецца **Lengyel**), адлі, што Кастанцін Порфіроґенэт завець у X стт. беларускіх Дзярвян „Лензаніні" (гл. вышэй у варт. пра Дзярвян). З гэтых прыкладаў відаць, што ад ***lędo** (з чаго цяперашняе беларускае „ляда") „зямля, ачышчаная ад лесу на аромае поле", узьнікла слова ***lędjaninъ** (з чаго блр. **lędžaninъ**, адлі ляджанін), як назоў ралейніка на лядзе (пр. „мешчанін" ад „места" і інш.); ад **lędjaninъ** узьнікла здрабнелая хорма **lęchъ** з чаго „лях", як маем ад „Аляксандра" здрабнелую хорму „Алехна", ад „Палешанін" здрабнелыя хормы „Палех" — Беларус Калужчыны й Арлоўшчыны, і „Паляшук" (як „Міхалюк" ад „Міхал" і пад., пр. таксама „Сяўрук" ад „Северанін"). Палякі самі сябе Ляхамі ня звалі, бо калі-б звалі, то ў мове польскай захаваўся-б у слове „лях" насовы самагук. Гэтак мусілі зваць Беларусаў і паўночна-заходніх Славян Украінцы, каторым, як жывучым у сьцяпох, кідаўся ў вочы лядавы характар гаспадаркі іхных паўночных суседзяў. Што ўсі Беларусы былі спачатна званыя „ляджанамі" й „ляхамі", відаць і з таго, што гэтак завець К. Порфіроґенэт Дзярвян і што гэты назоў „лензаніні" абымаў у яго вялікую тэрыторыю, калі ён усіх Славян, падуладных Русі, завець гэтым назовам ды назовам „Крывічы". Ад званьня Беларусаў „ляхамі", як ралейнікаў на лядах, аўтар летапісу ўтварыў, што яны „ад роду Ляхаў"; хоць тут можна разумець і даслоўна, што яны „ад роду лядавых ралейнікаў", дарма што такое значаньне з часам было забытае. [14])

---

[14]) Блізу сусім так, як тут, я выясьніў летапісную зацемку пра паходжаньне Радзімічаў а Вяцічаў у сваёй дысэртацы 1925 г. пра мову Аль кітабу, з каторай разьдзел пра беларускія плямёны быў у 1930 г. надрукаваны ў віленскай „Роднай мове" (гл. б. 54). Цяпер нанова разглядаючы гэтае пытаньне, мне было прыемна даведацца, што наагул таксама выясьняюць гэтае пытаньне польскі ботанік-этнолёґ Растафінскі а Сабалеўскі, каторы пры гэтым выясьняе, што калі польскі хронікар Кадлубак кажа пра Лехітаў, то ён мае наўвеце ня Ляхаў, але патомкаў Леха, закладніка польскага роду. Слова „лех" (ня „лях") Сабалеўскі ставе ў сувязь із лац. **rex, regere**, ст.-інд. **rajan** — цэсар і сваймі ім (Изв. ОРЯС, т. XXXI, 1926 г., б. 4). Пагляд В. Пархоменкі (Древляне и Поляне — ИОРЯС, т. XXXI, 1926), што Радзімічы й Вяцічы былі сьцепавым на-

Іншая рэч, што ня толькі Радзімічы й Вяцічы, але ўсі беларускія плямёны маглі прысьці на сваю гісторычную бацькаўшчыну із заходу. [15])

**Беларускасьць Радзімічаў.** Просьле таго, як Радзімічы былі „абароненыя" ад польшчыны, ніхто ў іх беларускасьці не сумляваецца, наадварот часта, здаецца, перадаюць значаньне іхнага ўчасьця ў беларускай нацыянальнай радзіме (прыдаюць яму перабольшанае значаньне).

**Беларускасьць Вяцічаў.** Расійцы, а за імі й іншыя завуць цяперашніх патомкаў вяціцкіх паўдзённа-расійцамі альбо паўдзённа-вялікарусамі і іхную мову паўдзённа-расійскай альбо паўдзённа-вялікарускай. Назоў такі ня толькі штучны, але й наперад залічае Вяцічаў да Расійцаў і гэтым зацямняе пытаньне, каторае яшчэ трэба выясьніць, разьвязаць. Дзеля таго аўтар гэтых радкоў будзе зваць жыхарства былых губэрняў Разанскае, Тульскае, Калускае, бальшыні Арлоўскае і часьці суседніх ягоным спрадвечным запраўдным іменям „Вяцічы", а мову гэтага жыхарства — моваю вяціцкай. Жыхарства тэрыторыі на поўнач ад вяціцкае, пра расійскасьць каторага ніхто не сумляваецца, я буду так і зваць Расійцамі і мову іх расійскай.

Усі чыста дасьледаваньнікі прызнаюць спрадвечную істотную апрычонасьць Вяцічаў і іхнае мовы ад Расійцаў і расійскае мовы. Ужо 430 год як Маскоўцы заваявалі вяціцкае гаспадарства — Вялікае Княства Разанскае. Адгэнуль Вяцічы належаць да ўсё нівэлюючае цэнтралістычнае Масквы, дзеля таго ад вяціцкае мовы і іншых этноґрафічных асаблівасьцяў засталіся адно сьляды. Але гэтыя сьляды на толькі вялікія, што нат пры цяперашнім стане вяціцкае этноґрафічнае апрычонасьці, выдатны аўторытэт у расійскай этноґрафіі, ён-жа й дыялектолёг Д. Зяленін у сваёй кнізе нямецкай моваю: „Die Völkerkunde der Ostslaven", Бэрлін 1927, уважае Вяцічаў за апрычонаю ад Расійцаў нацыю.

(Далей будзе).

---

родам на нічым не абаперты. Тое, што яны давалі дань Казарам, залежыла ад ґеоґрафічнага палажэньня іхных тэрыторыяў.

[15]) Гл. Сьпіцын (Працы й матар'ялы да гісторыі й археолёгіі Беларусі, Менск 1926). Пр. Czekanowski: Polska-Słowiańszczyzna, 123.

**Уладзімер Сядура**

# ВЯЛІКІЯ ДАРОГІ
## (РАМАН)

(Працяг, гл. № 7 (12)

О, каб ведалі яны, якім полымям ненавісьці палыхала ўсё ягонае нутро, калі ён бачыў вокал сябе цэлую ганьню вольных і нявольных кавалёў свайго няшчасьця! І якой асалодаю й шчасьцям было б яму кінуць ім у вочы словы асуду за іхную няздатнасьць зразумець высокую існасьць чалавека, за іхную ролю пярэчаньнікаў волі й права чалавека гаварыць і жыць, як душа загадуе. Але...

Усе, усе мы носім маскі,
Нат cькінуць дома баімося,
Да сьлёз сьмяёмся ў вечар майскі,
Да сьлёз сьпяваема увосень.

Таму даводзілася зьдзержаваць сябе бадай штодзясіны і рабіць выгляд зусім лёяльнага чалавека, якому ўсе антынародныя мерапрыемствы ўраду быццам дадушы, як дадушы ўся гэтая сыстэма асокі, іздрадніцтва й выведаньня пра сяброў, жонак, мужа, каханак, сваякоў.

Прыгадалася Кастанцаму, як у „Доме Вучоных", дзе ён знаходзіў да часу ціхі прытулак сваёй зморанай душы, да яго нешта пачала аж надта прыліпаць тамашняя сакратарка- бібліятэкарка, маладая, прыгожая, высокая, паўнагрудая дзяўчына. Магчыма, што там не абышлося бязь ейнага асабістага захапленьня. Аднак, ейныя ўпорыстыя прэтэнзіі на Кастанцаву ўвагу, ейныя неадноўчы паўтараныя напаміны скакаць із ёй на ігрышчах, гульня вачэй, і, наапошку, прапановы застацца зь ёй у "Доме" на ўсю ноч, выклікала ў Кастанцага сумлеў, ці ня было й тут якога другога пляну, пагатоў, што папярэдняе дазнаньне, што да ролі бібліятэкароў падказвала яму быць асьцярожным.

Думкі Кастанцавы йзноў перанесьліся ў ягоны Інстытут. Іпрыгадалася яму цяпер, як наапошку - ткі ён вынайшаў адзін ізь легальных спосабаў дапячы штатнаму сэксоту — менаванаму завадатаю ранешніх палітычных гутарак. У Інстытуце ня было літаратараў, а выпусьціць насьценную газэту хоць і зрэдку, надта-ж жадалася дырэкцыі. Каго-ж выбраць у рэдакцыйную коле-

гію, як не Кастанцага? Зарэкамандаваў сябе як пісьменны чалавек, асьвечаны навуковец. Рабіў рэфэраты на літаратурныя тэмы да розных угодкаў. Вось і абралі.

Набліжалася якоесьці савецкае сьвята. Усе ўстановы рыхталіся да ўрачыстасьці. Ня меў быць апошнім і Інстытут. Пачала дырэкцыя прасіць Кастанцага выдаць насьценную газэту да ўрачыстага вечару ў Інстытуце. Ну што - ж? Борзда арганізаваў матар'ял, частку напісаў сам або іншых людзёў прасіў напісаць. Але - ж трэба як ажывіць...І задумаў ён карыкатуру із жыцьця Інстытуту зьмясьціць у газэце. Задумана — зроблена. Знайшоў мастака і падаў яму ідэю. Колькі куплетаў да сатырычнага малюнку сам склаў. У іх падаваліся сумысьля перакручаныя факты з апошняга палітычнага міжнароднага жыцьця, але гэтак, што кажны, прачытаўшы, у бокі браўся ад сьмеху. А пасярод — добра ведамая хвігура менаванага бібліятэкара зь вялікім галасьнікам, у які ён выгукае перад зьбянтэжанымі супрацаўнікамі Інстытуту што раніцы пераблытаныя ў ягонай крывой галаве ведамкі. Можаце сабе ўявіць гнеў і злосьць чалавека, пра якога хадзіла ў гэтай сатыры. Кастанцы наўмысьля сачыў ягоны від, каб бачыць выраз яго ў часіну, калі той апынуўся ля насьценнае газэты і пачаў чытаць. І мусіць гэта яго не кранула - б так глыбака, каб было толькі пра якія - небудзь ягоныя асабістыя якасьці або заганы. Але - ж не, гэта - ж чалавек службу спаўняў, а яго гэтак сьмела выводзяць на сьмех людзём!

Тут ужо абраза зьмяшалася з гонарам савецкага служакі. Ад ягоны зьбялеў, ён адвёў галаву ў бок і тут спаткаў вясёлы бясклопатны пагляд... каго - б вы думалі?.... самога Кастанцага! Той спакойна спаткаў ягоны позірк, выдзержаў яго і ў вадказ як - бы засьвяціўся блескам здаваленьня ды асалодай помсты, аднаму бібліятэкару зразумелай. Гэтак ува ўсякім выпадку магло здацца пераможанаму гарапяццы. Цяжка сказаць, ці мог ён у гэтую часіну здагадавацца, што ягоная роля ня ёсьць ніякай таямніцаю Кастанцаму. Ясна толькі, што ненасытным жаданьням помсты ён загарэўся ад гэтага ўдвая, бо ў ім ужо загаварылі адразу абодвы — абражаны чалавек і прыніжаны службовец.

Ведаў Кастанцы, што не спадзявацца яму цяпер дабра, хоць не спадзяваўся яго й раней. Быў пэўны, што яму не даруе. Аднак, гэты быў адзіны магчымы й войстры спосаб хоць чым адказаць на тую мышычную сумятню, якую рабілі вокал яго гэтыя людзі.

Неўзабаве ён і пераканаўся, што асока яго яшчэ ўзмацнілася. Ужо й сам парторг інстытуту, які дзеля выгляду таксама і ў гэтым інстытуце займаў пасаду навуковага працаўніка, хоць навуковае працы ад яго ніхто й на гарэлы шэляг ня бачыў, пачаў часьцей пераймаць яго на дарозе ды маніцца йсьці разам ці то ў рэстаран палуднаваць, ці так куды. Часьцей пачала каля яго завіхацца й ягоная заступніца, гэтак сама ілжэ — навуковая працаўніца Інстытуту.

І трэба сказаць, што з гэтай яму не пашанцавала — ізноў даў маху і зрабіў абмылку. Гэта было на нейкім літаратурна — грамадзка — палітычным вечару, на якім прафэсар Вальфсон, марксысты — вульгарызатар, дэмагог, каліціні пагромнік беларускае культуры ў 1930 — 1936, гэтак расьпінаўся супраць нямецкага фашызму, як пагрозы міру. А было ўжо гэта ў сакавіку 1941, калі ўжо другі год саветы не казалі нічога дрэннага пра нямецкіх нацыстых, бо гэта было забаронена подле мірнае ўгоды аб ненападзе ад жніўня 1939 году.

Жадаючы дапячы Вальфсону, як ворагу беларускае культуры, Кастанцы не знайшоў нічога лепшага, як у гутарцы з тэю „супрацаўніцай" сказаць, што Вальфсонавы рэляцыі супраць фашызму не адказуюць палітыцы савецкай улады, бо, подле ўмовы, крытыка нямецкіх фашыстых недапушчальная.

Тая толькі скоса зірнула на яго, бліснуўшы сваймі злосна вірлаватамі вачыма. Праўда, ня выказалася супраць Кастанцавых даводаў, бо сама ня ведала пэўна, ці гэта ўжо пара настала на крытыку Немцаў, ці не, ды баялася, каб як ня лучыць із сваёй ортадаксальнасьцяй без пары самой у якую палітычную пастку ды ня збочыць у "ўхіл". А гэта ёй было страшней за самога люцыпара. То - ж бо пра гэткіх было напісана:

Іду дарогаю каля слупоў,
Каб ня ўхіліцца ўлева ці ўправа.

Але, змоўчаўшы, яна пэўна - ж зацеміла ў памяці Кастанцага, як абаронніка фашыстых і, няма сумлеву, давяла да ведама адпаведныя дзейнікі.

І чым больш аддаваўся ўспамінам Кастанцы ў гэты памятны дзень па дарозе дадому, тым больш прыгадаваў фактаў свае апошняе дзейнасьці, якія маглі - б зьявіцца асновай, каб зрабіць яго палітычна — ненадзейным і паднаглядным нат незалежна ад ягонага мінулага выгнаньня.

Дарма, што траха ніхто ня ведаў ягонае мінуласьці і, яна, здавалася, нічым ня засьціла яму цяпер.

І безь яе, як выявілася цяпер Кастанцавай сьведамасьці, было досыць, каб некалі перапоўніць кубак ведамкамі палітычнага нагляду і кінуць яго йзноў у даўно ўжо знаёмыя яму каменныя скляпеньні.

Яму прыгадаўся яшчэ адзін факт — ягоны рэфэрат у Інстытуце ўсяго колькі дзён назад — 18 чырвіня, у дзень чародных угодкаў сьмерці Максіма Горкага, калі ён перад досыць вялікай аўдыторыяй зь вялікім лікам запрошаных гасьцей выступіў із даўгім рэфэратам пра Максіма Горкага, як гісторыка расейскае літаратуры. Ён ня меў магчымасьці выступаць на беларускія тэмы дзеля свае мінуласьці й небясьпечнасьці адразу лучыць у лік беларускіх нацыянальных дэмакратаў-контрэвалюцыянэраў. Таму ён абраў, здавалася-б, бясcумлеўную з гледзішча ідэялёгіі тэму — Максіма Горкага, скарыстаўшы надоечы надрукаваныя Інстытутам Сусьветнае Літаратуры ім. М. Горкага ў Маскве канспэкты лекцыяў, што калісь, яшчэ да рэволюцыі гэты пісьменьнік чытаў у школе на абтоку Капры ў Італіі. Матар'ял даваў шмат асноваў пакрытыкаваць сучасных сацыялёгаў-вульгарызатараў ад савецкае літаратураведы і спрытна прыхавацца пад бяссупярэчным у Саветах аўтарытэтам Максіма Горкага.

Каб мацней секануць яшчэ па савецкай так званай марксысцкай літаратураведзе, Кастанцы ўважыў за патрэбнае прачытаць словы Ленінавы зь ягонага артыкулу „Леў Талстой, як люстра расейскае рэвалюцыі", дзе пісалася, што Талстой не разумеў рэвалюцыі, ейных мэтаў, рухавых сілаў, навет сьведама адхінуўся ад яе, аднак, перайшоўшы на гледзішча расейскага селяніна і адлюстровуючы ягоную псыхалёгію, міжволі, згодна з пачуцьцём вялікага мастака, адлюстраваў працэсы насьпяваньня гэтае рэвалюцыі, адбіў у сваім мастацкім творсьцьве вялікія зрушшы ў народнай псыхалёгіі, паказаў, наўсуперак сваім дваранскім перакананьням, цэлую эпоху ў жыцьці ўсіх пластоў тагачаснае Расеі

І Кастанцы з асаблівым націскам прыцягнуў увагу слухачоў да думак у менаваным артыкуле пра тое, што вялікія мастакі ня могуць не адбіць свае эпохі, дарма што й яны часта ў палоне застарэлае ідэялёгіі. Эпоха, як у люстры, знойдзе ў іх сваё адлюстраваньне, калі яны запраўды вялікія мастакі.

Гэта ўжо гучэла апраўданьням мастакоў — пісьменьнікаў,

перасьледаваных саветамі за ўяўную нясугучнасьць савецкай ідэялёгіі. Рэфэрат выклікаў буру воплескаў у чулае аўдыторыі. Новы заступнік дырэктара Інстытуту, відаць яшчэ мала зарыентаваны й неасьведамлены ў тым, што рабілася за кулісамі, пасьпяшаўся выступіць ад імені дырэкцыі (ці не занадта адказна ў вадрыс беспартыйнага?) і ад імені партыйнае арганізацыі з падзякай і пажаданьням барджджэй пабачыць працу надрукаванай у сэрыі навуковых выданьняў Інстытуту.

Маўчалі адно колькі лічаных асобаў. Сярод іх усё тая-ж супрацаўніца, што ўжо даўно падазрона завіхалася каля Кастанцага. Адразу пасьля рэфэрату, калі ўсе разыходзіліся, яна падышла да Кастанцага. Адразу-ж і выказала сумлеў, каб у Леніна былі гэткія думкі й мясьціны. Кастанцы абяцаў заўтра-ж прынесьці кнігу выбраных ленінскіх артыкулаў у пытаньнях літаратуры і паказаць ёй. Назаўтра-ж гэта й зрабіў. Доўга яна талопілася вачыма ў выразьліві друкаваны тэкст, перабягала з бачыны на бачыну, перагортала, углядалася на вокладку. Але нічога ня было супраць Кастанцага. Гэта было найноўшае выданьне таго-ж самага году. Чорным на белым на вокладцы стаяла:

"Издательство Социально-Политической Литературы, Москва Ленинград 1941".

Ня маючы чым супярэчыць, моўчкі зьвярнула яму кнігу і, як кажуць, "зацерла" гаворку. Але й тут Кастанцы зацеміў нядобры вогнік у ейных вачох і падумаў:

-Ой, быць хмарам над маёй беднай галавой некалі. Яна нічога не забудзецца і ніколі нічога не даруе.

Апрача таго, зацеміў Кастанцы сярод аўдыторыі колькі асобаў, якія ўжо даўно прыгледзіліся яму, як якіясьці падазроныя ў сэнсе належнасьці да ведамых дзейнікаў. Ніякага дачыненьня да якое навукі ці навуковых, або хоць-бы толькі школьных установаў яны ня мелі. Аднак, нешта апошнімі часамі зачасьцілі яны на сходы гэтага інстытуту. Ніхто іх ня пытаўся, чаго яны тут, хоць магчыма дырэкцыя, ды каму гэта трэба было, і ведалі іхныя правамоцтвы быць тут. Яны ня выказаваліся, ня пляскалі ў далоні, як гэта рабілі іншыя. Іхныя віды ня выказавалі жаднае думкі ці якое-колечы рысы або зацікаўленасьці. Яны проста сядзелі як нейкія жывыя муміі.

Кастанцы лёгка здагадаўся аб іхных мэтах. Фіксаваць усё,

што адбываецца, як той кінаапэратар, што з поўнай абыякавасьцяй здыймае ўсё, што паўстаецъ перад ім.

Яны адновяць, дзе трэба, бачанае й чутае, і яно пойдзе на аналізу ўжо іншым людзём і „фахоўцам" свае справы, а тыя ўжо вылавяць дух апазыцыі, хоць-бы сабе гэнага духу ня было там і званьня.

—Божа мой, які-ж я быў неасьцярожны! — падумаў, ідучы вуліцамі дадому Кастанцы.— А я думаў, што цяпер мяне ніякі ліхадзей на нічым ня зловіць. Эх, якім-жа я наіўным дзіваком усё-ж-ткі застаўся, — высnаваў ён, калі ўжо набліжаўся да Траецкага мосту, не зацеміўшы ў спагадах, калі і як мінуў Ніжні Рынак і зьвярнуў на сваю Стара-Віленскую вуліцу.

—Хоць да гэтай яшчэ не дабраліся із сваймі Карламі Марламі — усьцешыўся Кастанцы із старога назову ягонае вуліцы.

— Адылі-ж ад ліха ўсё адно не ўсьцеражэшся, — падумаў ён і ўспомніў словы гэроя паэмы „Калі асядае муць", якой, свайго часу, хлапцом, бадай што захапляўся:

Ходзім мы пад месяцам высокім,
А яшчэ пад ГПУ.

— Ні я першы, ні я апошні падалі й падаем ахвярамі гэтае ненажэрнае крывавае ўстановы. Уцякаць — куды? Свайго часу, у 1932, калі зацеміў асоку, зьбег у Маскву, каб згубіцца ў вялікай таўпе, аднак не надоўга, знайшлі й адтуль прывезьлі ў Менскія скляпеньні т. зв. "Амэрыканкі".

— Хіба мо гэтым разам удасца? А можа яшчэ ліха й абміне — усяк бывае.

— А можа гэта я перабольшаваю небясьпечнасьць? Можа на мяне яшчэ справы не завялі, а толькі першыя сігні нагляду робяцца? І зь кім-жа мяне могуць зьвязаць? Зь нікім не сябрую, апрача аднаго, але-ж ці гэта ім ведама, калі-ні-калі, раз на месяц, даведаюся да яго ў ягоным дамку на самай ускраіне места?

А за гэтым — ані душы блізкога знаёмага, зь кім-бы душу адвёў. Заўсёды на людзёх адзін, як тумарнік які. А наапошку, ліха іх ведае, чым яны кіруюцца пры сваіх азначаньнях ахвяраў? Пачакаю — пабачу, куды падзеі павернуцца.

— Трэба ператрываць, цярпліва астояць усю гэтую муць, можа яно неяк ператрэцца, а там, глядзі, які дзіў і здарыцца, — як-бы казаў сам сабе ён, злавіўшы сябе на слове „дзіў", і запыніўся. І не таму прыйшло цяпер гэтае слова, што ён верыў у

(Далей будзе).

## КНІЖКІ ПРЫСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ.

**Directory of American Organizations of Exiles from the U. S. S. R.,** New York 1952, бач. 192 вялікага фармату. Выданьне East European Fund, Inc. Кніга зьмяшчае ведамкі пра іміґрацыю ў Задзіночаных Гаспадарствах кажнага народу з усходняе Эўропы, у тым ліку пра іміґрацыю беларускую. У ёй паданы ўсі арганізацы й выдавецтвы кажнае іміґрацы. Беларусы об'ектыўна названы абодвымі цяпер ужыванымі назовамі, зн. Крывічамі й Беларусамі, ды другі назоў паданы ў дзьвюх хормах — **Whiteruthenians, Byelorussians.** Само выдавецтва завець Беларусаў **Whiteruthenians.** Кнігу можна купляць у выдавецтве: **East European Fund, Inc.** 10 **East** 44 **Str.,** New York 17, N. Y. Цана $ 1,50.

**Якуб Колас (Кастанцін Міцкевіч):** Новая зямля, поэма, Мюнхен 1952, бач. 246 вялікага фармату. Выданьне „Бацькаўшчыны". Цана $ 3 ды кошт перасланьня поштаю, хіба цэнтаў 20-25. У Задзіночаных Гаспадарствах кнігу трэба выпісаваць у беларускага кальпортэра: B. **Danilovich,** 222 **Suydam St.,** New **Brunswick** N. J.

**Юрій Шерех:** Кость Михальчук, Вінніпеґ 1952, б. 39.

---

**Прыслалі на (альбо за) „Веду" ў жніўню-верасьню:** кольп. С. Карніловіч 10 дал. 50 ц., Ащ. Ч. Сіповіч і Др. М. Смаршчок па 10 дал.; кольп. В. Кендыш і Яз. Гуткоўскі па 6 дал.; Кс. М. Урбановіч, Проф. Н. Вакар і кольп. В. Пануцэвіч па 5 дал.; кольп. В. Стома 4 дал. 20 ц.; кольп. Сардачэнка й інж. Альб. Асоўскі па 3 дал.; Н. Краўцэвіч 2 дал. 10 ц.; Б. Даніловіч і А. Стагановіч па 2 дал.; кольп. Д. Яцкевіч 1 аўстр. хунт, зьменены на 1 дал. 75 ц.; Вал. Русак і Л. Савёнак па 1 дал. 50 ц.; Б. Дубоўскі 1 дал. 10 ц.; Я. Крэсла, Л. Галяк, М. Міцкевіч і М. Пятрушэвіч па 1 дал. **У кайстрычніку прыслалі:** Н. Н. 5 дал.; Др. Б. Грабінскі 3 дал.; кольп. Я. Назарка 2 дал.; М. Тулейка 1.10; А. Вяр. і Фр. Нехвядовіч па 1 дал. Усім вялікі дзякуй!

---

**Ад рэдакцы.** Рэдакца засьцерагае сабе права скарачаць рукапісы аўтараў і папраўляць іх мову. Канчальная моўная рэдакца ўсіх матар'ялаў належа да рэдакцы. З прычыны нястачы сяродкаў рэдакца ня плаце гонорару аўтарам.

---

Рэдагуе Рэдакцыйная Колеґія.

Ukrainian American Press, 133 E. 4th St., New York 3, N. Y.